ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 8 (2306) 25 лютага 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*ВІЛЕНСКАЯ ЗНАХОДКА*

## АРХІЎ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі для мяне сімпатычная тым, што ў пэўны перыяд станаўлення БНР яе ўрад узначаліў выдатны крытык, адмысловы літаратар-публіцыст, гісторык Вацлаў Ластоўскі. Да ўсіх пералічаных талентаў у ім раскрыліся здольнасці палітыка. Зрэшты, грамадскай чыннасцю Власт вылучыўся задоўга да снежня 1919-га, калі быў абраны прэм'ер-міністрам маладой незалежнай дзяржавы. Час прэм'ерства Ластоўскага (1919—1923) — найбольш плённы перыяд у гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі наогул.

Таму без пярэчанняў пагаджуся я змяніць першапачаткова задуманы загаловак вось гэтай публікацыі "Архіў БНР у Вільні" на той, які шаноўны чытач бачыць. Бо разуменне "архівы БНР" мусіць быць (і ёсць) шырэйшым за тыя паўтары сотні папак, што захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Летувы ў Вільні. Слушную заўвагу выказала мне падчас нешматлікай, але прадстаўнічай канферэнцыі, наладжанай з ініцыятывы Беларускага Народнага Фронта "Адраджэнне" ў Доме літаратара з нагоды ўтварэння арганізацыйнага камітэта па святкаванню 75-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, спадарыня Ганна Сурмач, прафесійны архівіст, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі (ЦДАМЛіМ), адначасова з палёгкай уздыхнуўшы, бо асабісты архіў Ластоўскага яна расшуквала не год і не два.

Жыццё і творчасць выдатнага нашаніўскага адраджэнца ніяк не ўваходзіла ў мае архіўна-даследчыя планы, цалкам завязаныя на XIX стагоддзі (В. Дунін-Марцінкевіч, П. Багрым, В. Савіч-Заблоцкі, Ф. Багушэвіч), пакуль воляй лёсу, а дакладней, настойлівасцю двух маладзёнаў Юрася Гарбінскага і Лявона Юрэвіча, складальнікаў зборніка "Імёнаў распятых вяртанне", запланаванага выдавецтвам "Вышэйшая школа", не змушаны быў пісаць нарыс пра Ластоўскага, паплечніка Купалы, Ядвігіна Ш., Ігнатоўскага...

Перш чым сесці пісаць, вядома, мусіш сабраць патрэбны матэрыял. Збіраць не заўсёды проста. Асабліва, калі і "герой", і перыяд раней табою не даследаваліся. Найбольшы комплекс дакументаў пра Вацлава Ластоўскага ў Мінску захоўваецца ў згаданым ужо ЦДАМЛіМе, сярод папераў гэтак званага "Фонду "Нашай Нівы"". Агульны змест патрэбных папак пазначаны на вокладках: "Переписка В.Ю. Ластовского с деятелями белорусского национа-листического движения и организациями. Пригласительные билеты и визитки за 1916, 1922—1927 гг.". Самыя сталыя адрасаты Ластоўскага — яго ныя паплечнікі Клаўдзій Дуж-Душэўскі і Янка Станкевіч. Паміж іхняй шматлікай, не за адзін год трывалай карэспандэнцыяй сустракаюцца паасобныя аўтографы Власта (пераважна чарнавыя накіды) па розных пытаннях. Бо чым толькі ні даводзілася займацца прэм'ер-міністру, хай сабе і "марыянетачнага" ўрада, як нязменна хрысцілі яго яшчэ ўчора гісторыкі-марксісты.

(Заканчэнне на 5-й стар.).



**Сёлета спаўняецца 155 гадоў з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, нацыянальнага героя Беларусі, палымянага барацьбіта за волю і лепшую долю свайго народа. Яго імя папулярнае ў Літве і Польшчы. Легендарнае жыццё Кастуся Каліноўскага, гісторыя паўстання 1863—1864 гадоў пад яго кіраўніцтвам да гэтага часу з'яўляюцца тэмай навуковых даследаванняў і мастацкіх твораў. Рэпартаж з вечарыны, прысвечанай К. Каліноўскаму "Ён - крыж! Ён - скрыжаванне!", змешчаны на 5-й стар.**

## НАМ ІСЦІ РАЗАМ

**Нядаўна Украіна, як было неадноўчы раней, прымала беларусаў, сардэчна вітаючы на сваіх сцэнічных пляцоўках нашы лепшыя мастацкія калектывы і вядомых салістаў. Галоўны ініцыятар правядзення Дзён Беларусі прэзідэнт фонду сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў і дапамогі малазабяспечаным слаям насельніцтва Вера Сніткоўская адзначыла, што асноўнай мэтай гэтага свята быў пошук новых форм культурнага супрацоўніцтва, маральная і матэрыяльная падтрымка дзеячаў мастацтва, якія сваёй працай спрыяюць духоўнаму адраджэнню нашых народаў.**

**Мастацтва сёння з'яўляецца своеасаблівым парламенцёрам, які дапамагае падтрымліваць добрасуседскія адносіны паміж двума братнімі славянскімі народамі. Як высветлілася ў час канцэрта ў Палацы культуры "Украіна", тут добра памятаюць, любяць і чакаюць нашых "Песняроў", з задавальненнем успрымаюць новыя песні студыі "Сябры", Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, "Верасоў", Надзеі Мікуліч. Кіяўляне пазнаёміліся з вядучымі беларускімі мастацкімі калектывамі, з мастацкімі і дакументальнымі стужкамі, пабывалі на выставе дэкаратыўна-прыкладного мастацтва, адбылася выстава-продаж прадукцыі нашых народных умельцаў.**

**Афіцыйную беларускую дэлегацыю ўзначальваў Ніл Гілевіч, які са шкадаваннем сказаў пра тое, што падобнае мерапрыемства не адбылося раней. "Перыяд некаторага пахаладання ў нашых адносінах трошкі зацягнуўся, — сказаў ён, — таму не можа не радаваць, што ўсё вяртаецца на кругі свае. У новых гістарычных умовах, калі нашы дзяржавы набылі поўную незалежнасць, важна захаваць тыя добрыя традыцыі, што здаўна звязваюць нашы народы, развіваць іх". Такую ж думку выказаў і прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук, заначыўшы, што і ў горы, і ў радасці нам наканавана ісці разам.**





**НА ЗДЫМКУ: на сцэне— "Песняры"; выступаюць Я. ПАПЛАЎСКАЯ і А. ЦІХАНОВІЧ.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

### НАС БУДУЦЬ ВУЧЫЦЬ НА СРОДКІ ААН!

**Усходняя Еўропа, а разам з ёю і Беларусь працягваюць заставацца для міжнародных арганізацый зонай асаблівай увагі.**

**У ААН, напрыклад, распрацавалі праграму тэхнічнага і эканамічнага супрацоўніцтва з нашымі дзяржавамі.**

**Пра гэта праінфармаваў кіраўніцтва Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях прадстаўнік ААН Мэцью Кахане. У ходзе яго перагавораў з кіраўніком нашага знешнеэканамічнага ведамства Уладзімірам Радкевічам былі вызначаны канкрэтныя формы дапамогі ААН рэспубліцы. Гэта і прадастаўленне тэхнічных сродкаў для абмену інфармацыяй, і экспертыза канцэпцыі знешнеэканамічнай дзейнасці Беларусі, і падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў для Беларусі з дапамогай і на сродкі ААН, ЮНКТАД, ГАТТ, КЭС, Сусветнага банка і іншых міжнародных арганізацый.**

*"На жаль, рэальная ацэнка становішча спраў прымушае прызнаць: неабходнасць пабудовы прававой дзяржавы пакуль у асноўным захоўваецца на ўзроўні дэкларавання, а тым часам крымінагенная абстаноўка ў рэспубліцы абвастраецца. З'явіліся новыя негатыўныя тэндэнцыі. Трывожыць, што зніжэнне прававой свядомасці насельніцтва спалучаецца з прававым нігілізмам супрацоўнікаў мясцовых органаў улады і кіравання, суправаджаецца ростам карумпіраванасці ў дзяржаўным апараце.*

*Складваецца ўражанне, што Беларусь падышла да мяжы, пераступіўшы якую, замест прававога можа ўтварыцца крымінальная грамадства. А такому грамадству не патрэбны ні дэмакратычныя рэформы, ні свабодная рынгачная эканоміка, ні нацыянальнае адраджэнне.*

*Я не распаляю страсці, бо менавіта так уяўляе становішча спраў значная частка насельніцтва Беларусі. Мяркуйце самі. У жніўні мінулага года 35 працэнтаў апытаных жыхароў Рэспублікі Беларусь указалі, што іх у найбольшай ступені хвалюе рост злачыннасці. У кастрычніку мінулага года чвэрць кіраўнікоў і галоўных спецыялістаў прадпрыемстваў назвалі асноўнай перашкодай развіцця рыначных структур карупцыю. У верасні–кастрычніку мінулага года 63 працэнты жыхароў рэспублікі выказаліся за неадкладнае прыняцце больш строгіх, больш суровых законаў пакарання злачынцаў".*

*(З выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧА на нарадзе па пытаннях законнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь 13 лютага 1993 года).*

БЕЛАРУСЬ — ЗША

### ГАНДЛЁВАЕ ПАГАДНЕННЕ

**16 лютага 1993 года пасля абмену дыпламатычнымі нотамі паміж Міністэрствам замежных спраў РБ і пасольствам ЗША ўступіла ў сілу пагадненне аб гандлёвых адносінах паміж гэтымі краінамі.**

**З уступленнем у сілу гэтага пагаднення Рэспубліка Беларусь атрымлівае рэжым найбольшага спрыяння ў гандлёвых адносінах з ЗША.**

**У сувязі з гэтым для беларускіх тавараў, што экспартуюцца ў ЗША, распрацоўваецца новая тарыфная шкала.**

**Злучаныя Штаты выказваюць задавальненне з выпадку ўступлення ў сілу яшчэ аднаго важнага пагаднення паміж нашымі дзвюма краінамі. Гэты крок падкрэслівае сур'ёзнасць, з якой Злучаныя Штаты разглядаюць развіццё сваіх адносін з Рэспублікай Беларусь.**

З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

### СУМНЫЯ РЭКОРДЫ

**Супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі падвялі нярадасныя вынікі дарожна-транспартных здарэнняў за мінулы год.**

**У 1992 годзе ў выніку 8 807 аўтааварый у Беларусі загінуў 2 151 чалавек і атрымалі раненні 8 678 чалавек. У мінулым годзе адбылося больш як 30 тысяч дарожна-транспартных здарэнняў. Яны сталі прычынай пашкоджання транспартных сродкаў, дарог і дарожных збудаванняў.**

**У краінах з развітой аўтамабільнай сеткай адным з галоўных паказчыкаў бяспекі дарожнага руху прынята лічыць колькасць загінуўшых за год на 1 мільён зарэгістраваных транспартных сродкаў. У Беларусі гэты паказчык за 1992 год склаў 1 325, што ў 4—6 разоў вышэй, чым у такіх краінах, як ЗША, Японія, Швецыя, Італія.**

НЕПАЖАДАНЫ СУВЕРЭНІТЭТ

### ПАЯЗДЫ ПРАХОДЗЯЦЬ МІМА

**Напалову пустымі праходзяць праз Магілёў пасажырскія паязды з Украіны, Малдовы, Расіі. Але ўзяць на іх білеты ў касе вакзала немагчыма. Месцаў няма. А вось "зайцамі" праваднікі і начальнікі паяздоў прымаюць усіх з вялікай ахвотай. Праўда, дзяруць па тры шкуры наяўнымі ў любых грашовых знаках: ад карбованцаў да беларускіх "зайчыкаў". Усё гэта прыдумана геніяльна проста: кіраўнікі "замежных паяздоў" не паведамляюць у касы аб наяўнасці свабодных месцаў, а самі ўсё распрадаюць. Паспрабавалі мясцовыя рэвізоры навесці парадак. Але ім браты па былому Саюзу папросту паказалі дулю. Маўляў, няма чаго сунуць нос у справы іншай суверэннай дзяржавы. А беларускім пасажырам тым часам такі суверэнітэт улятае ў кругленькую суму.**

СОЙМ БНФ

### ЗНОЎ ДЫКТАТУРА?

**13 лютага ў Мінску прайшоў чарговы сойм БНФ. Быў абмеркаваны шэраг пытанняў, у першую чаргу — вяртанне КПБ на палітычную арэну Беларусі. На думку прысутных, гэтая падзея сведчыць пра тое, што "партыя ўлады" вырашыла легалізаваць сваю дзейнасць і, такім чынам, нашай маладой дэмакратыі пагражае дыктатура. У сувязі з гэтым ускладнілася сітуацыя вакол летняга з'езда беларусаў свету. БНФ заявіў, што не можа прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве, бо яно павінна апраўдаць урад і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у вачах сусветнай супольнасці.**

ГАРАДСКІ ТРАНСПАРТ

### "НЕАПЛАН" ВЫХОДЗІЦЬ НА МАРШРУТ

**Некаторым пасажырам 79-га гарадскога маршруту ў Мінску можна пазайздросціць. Яны сталі першымі, хто на справе адчувае камфорт, шмат іншых зручнасцей і вартасцей аўтобуса нямецкай фірмы "Неаплан", той самай, якая наладжвае сумеснае прадпрыемства з Мінскім аўтазаводам. Па нашаму заказу першы доследны ўзор ужо сабраны ў Германіі. Цяпер яго чакае доследная абкатка.**

**У бліжэйшай будучыні аўтазаводцы павінны пачаць зборку гэтай мадэлі аўтобуса. З нямецкіх запчастак, камплектуючых і кузава плануецца да канца года сабраць першы дзесятак машын.**

ДАБРАЧЫННАЯ МІСІЯ

### З ГІТАРАЙ І... ЛЯЛЬКАМІ

**У багажы ў музыкантаў, якія прыбылі з Ліверпуля ў Мінск, не толькі інструменты, але і падарункі для выхаванцаў дзіцячага дома. Дабрачынная місія — частка акцыі "Музыканты свету — дзецям Чарнобыля". Наладзілі яе сумеснае беларуска-італьянскае прадпрыемства "Акарына", Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм Беларусі, ліверпульская арганізацыя "Інтэрнэйшнл".**

**Спевакі і музыканты з Англіі, Італіі, Бельгіі, Расіі, Беларусі прынялі ўдзел у вялікіх гала-канцэртах, якія прайшлі ў Мінскім Палацы спорту. Частка сабраных сродкаў пойдзе ў фонд дапамогі дзецям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

### ЛЕБЯДЗІНАЕ ЦАРСТВА

**На Зэльвенскім вадасховішчы атабарыліся цэлыя калоніі лебедзяў-шыпуноў. Ва ўтульных затоках яны выводзяць тут сваіх птушанят. Грацыёзныя прыгажуні не пакідаюць любімыя месцы круглы год. Баласе, побач — незамярзаючыя палонкі.**

**Вялікі клопат па захаванню птушак праяўляюць аматары прыроды, асабліва школьнікі. У зімнюю сцюжу яны падкормліваюць іх рознымі ласункамі.**

**Лебядзіным царствам называюць сяльчане вусце Зэльвянкі, дзе размешчаны вёскі Кашалі, Івашковічы, Караліна. Тут жывуць некалькі соцень беласнежных лебедзяў.**

**На вадаёме сталі з'яўляцца белыя лілеі — сведкі чысціні навакольнага асяроддзя.**

СТРАШНЕЙ ЗА РАДЫЯЦЫЮ

**Не думаў Шата Чыкавані, слухаючы трывожныя паведамленні з Малдовы, Нагорнага Карабаха, Югаславіі, што бяда падступае і да яго дома. А яна ўжо была зусім блізка ад роднага пасёлка на беразе ласкавага Чорнага мора. Калі ж рап там абрушыўся град агню, сям'я Чыкавані, іх суседзі з мізэрным скарбам ледзь паспелі выехаць на грузавым аўтамабілі. На месцы прыгожага дома застаўся пажарышча. Абхазец Шата Чыкавані, яго 70-гадовая маці, сваякі —людзі рознай нацыянальнасці — апынуліся ў беларускім горадку Чачэрску. Як і многім іншым бежанцам, жыццё ў месцах з павышанай радыяцыяй здаецца ім больш бяспечным, чым на роднай зямлі, уцягнутай у міжнацыянальныя войны.**



ПАМЯЦЬ ВАЙНЫ

### ПРАЗ 50 ГАДОЎ

**Амаль паўстагоддзя салдат не ведаў пра кулю, якая засела ў яго целе. Выявілі яе ў 80-гадовага жыхара вёскі Кашалі Зэльвенскага раёна ўрачы мясцовай бальніцы. Пасля рэнтгенаўскага здымка зрабілі аперацыю і дасталі іншародны прадмет.**

**Высветлілася, што радавы — кулямётчык Мікалай Кузака ў 1945 годзе быў лёгка паранены пад Берлінам. У медсанчасці, не заўважыўшы кулі, рану спешна зашылі. А праз некалькі дзён салдат зноў быў на перадавой. Пасля вайны ён вярнуўся ў родную вёску. Працаваў у калгасе, цяпер даглядае асабістую гаспадарку. Цікава, што за гэты час куля з бядра "перабралася" да калена.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

КАНСТРУКТАРЫ ВА "БелаўтаМАЗ" заканчваюць выраб першага доследнага ўзору аўтамабіляў сямейства "МАЗ-6430" новага пакалення. Гэта будзе двухвосевы седлавы цягач, прызначаны для работы з трохвосевымі паўпрычэпамі. Агульная вага аўтапоезда складзе 40—44 тоны, а на аўтамабілях сямейства "МАЗ-6430" будуць рухавікі магутнасцю ад 360 да 520 конскіх сіл з сістэмай нагнятальнага паветра па схеме "паветра-паветра".

ТРЫ аўтафургоны з прадуктамі прыбылі нядаўна на адрас Фонду міласэрнасці і здароўя Рэспублікі Беларусь. Адпраўцель — кафейная фірма "Эдушо" з Брэмена. Трэці год запар немцы прывозяць пасылкі, якія прызначаны для інвалідаў, шматдзетных сем'яў, іншых катэгорый маламаёмных. Дабрачынны груз размеркаваны сярод мінчан, адпраўлены ў Магілёўскую і Гомельскую вобласці.

ПАДРАЗДЗЯЛЕННІ ўнутраных войск МУС Рэспублікі Беларусь, што дыслацыруюцца ў Мінску, тэрмінова перакідваюцца ў Оршу і Барысаў. Гэтая "камандзіроўка" сталічных вартавых парадку звязана з усплёскам вулічнай злачыннасці і ростам правапарушэнняў сярод падлеткаў двух буйных прамысловых цэнтраў рэспублікі.

РЭЧЫЦКІ суднабудаўніча-суднарамонтны завод у канцы мінулага года вырабіў і адправіў адной з галандскіх фірмаў дзве баржы. Сёлета гэта фірма зноў зрабіла заказ: ужо 4 судны будуць сабраны беларускімі карабеламі ў першым паўгоддзі. Галандцы даасначаць баржы сваім абсталяваннем, а за паслугі расплацяцца валютай.

НОВАЯ штатная структура цэнтральнага апарату Міністэрства абароны, зацверджаная Саветам Міністраў Беларусі, уступіла ў дзеянне. Колькасць генералаў і афіцэраў у апараце зменшылася на 10 працэнтаў.

У БЕЛАРУСКАЙ акадэміі музыкі прайшоў першы ў гісторыі СНД конкурс "духавікоў". Дыпломы лаўрэатаў першай ступені і грашовыя прэміі атрымалі Віталь Сіроткін, Уладзімір Мімоцін, Андрэй Марозаў (усе — Беларусь).

ЯК ПАВЕДАМІЛА статупраўленне рэспублікі, на 1 студзеня 1993 года ў Мінску пражывала 1 мільён 686 тысяч 800 чалавек. Але ў гэты лік уваходзяць толькі тыя жыхары, якія маюць сталічную прапіску. Так што статыстычныя даныя значна заніжаны.

## З ГІСТОРЫІ ГАДЗІННІКАВАЙ СПРАВЫ

# У НАГУ З ЧАСАМ

Адной з галін чалавечай дзейнасці, дзе пытанні навукі і тэхнікі зліваюцца ў адно, з'яўляецца развіццё метадаў і сродкаў вымярэння часу. Самы старажытны і самы распаўсюджаны з прыбораў часу — сонечны гадзіннік. Калі менавіта з'явіўся ён у Беларусі, сказаць цяжка. У даны момант такія весткі базіруюцца на шэрагу пісьмовых і рэчавых помнікаў. 1736 годам датуюцца канспекты па гноманіцы (вырабе сонечных гадзіннікаў) невядомага вучня калегіі ў Нясвіжы. Яны захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. Канспекты ілюстраваны 46 чарцяжамі.

Існавала два тыпы сонечных гадзіннікаў: нерухомыя і пераносныя. Шэраг узораў пераносных сонечных гадзіннікаў захаваўся ў фондах беларускіх музеяў. У Дзяржаўным музеі БССР экспануецца выдатны ўзор сонечнага гадзінніка з дзвюма дадатковымі шкаламі, лініі якіх даюць магчымасць вызначыць час ноччу па цені ўзрастаючага ці ўбываючага месяца. Гадзіннік забяспечаны надпісамі на лацінскай і польскай мовах і датаваны 1779 годам. У гэтым жа музеі захоўваецца частка кадрана сонечных гадзіннікаў другой паловы XYIII стагоддзя, знойдзеная ў 1968 годзе ў Мінску на месцы разбуранага старога драўлянага дома ў раёне бульвара Луначарскага.

Заслугоўвае ўвагі ўпамінанне аб унікальным сонечным гадзінніку, што захоўваецца ў музеі пры Полацкай езуіцкай акадэміі, адпраўленым пасля яе закрыцця ў 1830 годзе ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў.

І пасля з'яўлення колавых, механічных гадзіннікаў цікавасць да гноманікі захавалася. Гэта тлумачыцца перш за ўсё вялікай дакладнасцю сонечных гадзіннікаў, з якой не маглі параўнацца механічныя гадзіннікі, пакуль не з'явіўся больш дакладны рэгулятар ходу — маятнікавы асцылятар. Але і пасля гэтага сонечныя гадзіннікі заставаліся абавязковай прыналежнасцю ўсіх абсерваторый. У справаздачы Горы-Горацкага земляробчага інстытута за 1851-52 навучальны год указваецца, што тапограф Астроўскі напісаў артыкул аб неабходнасці вызначэння паўдзённай лініі і канструкцыі сонечных гадзіннікаў.

Несумненна, што ў Беларусі былі вядомы і іншыя віды самых старажытных гадзіннікаў: вадзяныя, пясочныя і агнявыя. Напрыклад, адлюстраванне пясочнага гадзінніка прысутнічае на шырока вядомым партрэце Францыска Скарыны (1517 год).

Тыпы ранніх гадзіннікаў не былі універсальнымі. Сапраўды, сонечныя ці зорныя гадзіннікі былі бескарысныя ў пахмурнае надвор'е, вадзяныя бяздзейнічалі пры мінусавых тэмпературах, пясочныя і агнявыя адзначалі толькі абмежаваныя часовыя прамежкі. Толькі са з'яўленнем механічных гадзіннікавых канструкцый вымярэнне часу перастала залежаць ад прыродных абмежаванняў.

У Заходняй Еўропе самыя простыя механічныя гадзіннікі з'явіліся ў канцы XIII — пачатку XIY стагоддзяў. У 1404 годзе пры вялікім князі Васіліі, сыне Дзмітрыя Данскога, механічныя гадзіннікі былі выраблены і ўстаноўлены ў Маскоўскім Крамлі. Улічваючы прамежкавае знаходжанне беларускіх зямель, знаёмства Беларусі з механічнымі гадзіннікамі варта аднесці да XIY стагоддзя.

Пачынаючы з XY стагоддзя шэраг падзей на беларускіх землях, адзначаных у летапісах і актах, зафіксаваны з дакладнасцю да гадзіны: смерць караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча ў Гродне ў 1492 годзе, смерць князя Юрыя Слуцкага ў 1542 годзе. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года ўстанаўліваў дваццацічатырохгадзінны тэрмін пошуку злачынцы.

Прафесія гадзіннікавага майстра нярэдка сустракаецца ў дакументах XYI—XYII стагоддзяў. Мінскія гадзіншчыкі ў 1591 годзе аб'ядналіся ў цэх разам з залатых спраў майстрамі, кавалямі, катлярамі, меднікамі, слесарамі, мечнікамі і нажоўшчыкамі.

У другой палове XYII стагоддзя гадзіннікавыя майстры з Беларусі працавалі ў Маскве ў ведамстве Аружэйнай палаты і Прыказе Вялікага палаца. У Аружэйнай палаце, напрыклад, працавалі ў 1660 годзе 68 полацкіх і віцебскіх, "серебренного и бронного, и ствольного, и замочного винтовальных пищалей, и ложевников, и токарного, столярного, и загормистрельного, и каретного, и замочного дела к ветлицам" майстроў і іх вучняў. Дакументы сведчаць, што зекгармістры, як правіла, акрамя гадзіннікавай справы валодалі слясарным і збройным майстэрствам. Роспіс полацкіх, віцебскіх і віленскіх майстроў і вучняў Аружэйнай палаты 1660 года ўказвае, што Міхалка Мікіцін, Філька Тарасаў і Антошка Іваноў "загормистры и кореты оковывают, и замки большие к светлицам делают они же". А Івашка Сцяпанаў, "содержащий" у віцебскім Троіцкім Маркаўскім манастыры гадзіннік з боем, названы ў 1660 годзе ў адпісцы віцебскага ваяводы Н.Бабарыкіна пушкаром і замочным майстрам. Калі па царскаму ўказу яго збіраліся адправіць у Маскву, то настаяцель манастыра Аляксей чалабітнай хадайнічаў адмяніць гэтае рашэнне, таму што манастырскія гадзіннікі засталіся б без нагляду.

У XYII стагоддзі вежавыя гадзіннікі сталі даволі звычайнай рысай гарадскога быту. Унікальным помнікам тэхнікі XYII—XYIII стагоддзяў з'яўляецца дзеючы механізм вежавага гадзінніка гродзенскага езуіцкага (фарнага) касцёла.

Нягледзячы на бурныя гістарычныя падзеі другой паловы XYIII стагоддзя, традыцыі гадзіннікавага майстэрства ў Беларусі практычна не перапыняліся. Вядомы гадзіннік, выраблены ў Брэсце ў 1761 годзе майстрам Іаганам Шмітам. Але самым славутым механікам таго часу варта прызнаць Еўна Якабсона. У Нясвіжы, магчыма, па распараджэнню Радзівіла, не пазней 1770 года ён стварыў механічную лічыльную машыну, здольную выконваць задачы па складанню, адніманню, памнажэнню і дзяленню "от числа один до тысячи миллионов". Адзін з надпісаў на ёй: "Ізобретена і ізготовлена Евной Якобсоном, часовым мастером і механіком в городе Несвіже в Літве, Мінское воеводство".

З сярэдзіны XYIII стагоддзя гадзіннікі сталі адной з характэрных дэталей убранства шляхты. Залатыя і сярэбраныя кішэнныя гадзіннікі ("пектаралікі") насілі на відным месцы. Існаваў нават звычай прымацоўваць гадзіннік да рукава.

Значна ўзрасла патрэба ў бытавых, індывідуальнага карыстання гадзінніках у XYIII стагоддзі. Гэта прывяло да арганізацыі ў 1769 годзе адначасова ў Маскве і Пецярбургу казённых мануфактур "кішэнных і насценных гадзіннікаў". Крыху пазней, у 1784 годзе, князь Р. Пацёмкін арганізаваў у сваім маёнтку ў мястэчку Дуброўна Магілёўскай губерні ўласную гадзіннікавую мануфактуру.

Кіраваў работай мануфактуры Пётр Нардштэйн. Вопытны гадзіншчык і педагог за кароткі час змог навучыць 33 падлеткаў-прыгонных складанай гадзіннікавай справе і наладзіць вытворчасць розных тыпаў гадзіннікаў.

Вытворчасць была заснавана па мануфактурнаму прынцыпу, з падзяленнем працы: кожны з майстроў выконваў асобную аперацыю, і затым ішла зборка і рэгуліроўка. Гэта дазваляла адных толькі кішэнных гадзіннікаў выпускаць да 10 штук у месяц.

У літаратуры за гэтай гадзіннікавай мануфактурай 1784—1804 гадоў зацвердзілася назва Купавінскай. Аднак, улічваючы, што яе станаўленне і першая палавіна дзейнасці праходзілі ў Дуброўне, а пад Маскву была пераведзена па сутнасці гатовая вытворчасць разам з абучанымі майстрамі, гадзіннікавую мануфактуру, якой кіраваў П. Нардштэйн, варта ўсё-такі называць Дубровенскай.

Маскоўскі перыяд работы Дубровенскай гадзіннікавай мануфактуры звязаны з імем Івана Кулібіна. З 1786 па 1861 год выдатны вынаходнік праектаваў планетныя кішэнныя гадзіннікі, якія павінны былі паказваць месяцы па знаках задыяка, акрамя таго, дзень тыдня, гадзіны, хвіліны і секунды. І. Кулібін спрабаваў арганізаваць серыйны выпуск гэтых гадзіннікаў на мануфактуры.

Вырабы Дубровенскай гадзіннікавай мануфактуры паступалі ў распараджэнне царскага двара і на продаж, былі вельмі папулярныя ў абедзвюх сталіцах і правінцыі.

Даведнік расійскіх гадзіннікавых майстроў змяшчае даныя пра сем гадзіннікавых майстроў XIX стагоддзя з Беларусі: па аднаму з Мінска і Магілёва, а астатнія з Віцебска. Да даных В. Чанакала трэба дадаць удзельніка Усерасійскай прамысловай і мастацкай выстаўкі ў Ніжнім Ноўгарадзе ў 1896 годзе М. Урагізона з Гродна, узнагароджанага дыпломам 4-га разраду за гадзіннік-глобус.

Буйны ўклад у развіццё гадзіннікавай справы не толькі ў Беларусі, але і Расіі ў XIX стагоддзі ўнёс Генрых Сон. Яму належала гадзіннікавая майстэрня ў Магілёве, створаная ў 1840 годзе. Дзейнасць Г. Сона добра прасочваецца па матэрыялах сусветных і ўсерасійскіх выставак. На лонданскай сусветнай выстаўцы ў 1862 годзе яго гадзіннік з механізмам уласнага вынаходніцтва быў удастоены ганаровага водгуку. Яшчэ больш цікавыя гадзіннікавыя механізмы ён прадставіў на наступную, парыжскую сусветную ў 1867 годзе. Гэта быў гадзіннік з гадавым заводам, а таксама маленькі сферычны гадзіннік у выглядзе бірулькі — невялікай залатой кулі. Асаблівасцю іх механізма было размяшчэнне гадзіннікавых шасцерань не ў двух, як звычайна, а ў пяці плоскасцях адна над адной, што і дазволіла зменшыць памеры гадзінніка ў некалькі разоў. Нягледзячы на тое, што Расію на гэты раз прадстаўлялі шэсць экспанатаў, а таксама моцную канкурэнцыю з боку гадзіншчыкаў з такіх прызнаных цэнтраў гадзіннікавай справы, як Швейцарыя, Англія, Францыя, магілёўскі гадзіншчык зноў заваяваў узнагароду.

На Усерасійскай мануфактурнай выстаўцы 1870 года ў Пецярбургу гадзіннікі работы Г. Сона займалі цэлую вітрыну і былі ўдастоены бронзавага медаля. Другі бронзавы медаль "за кішэнныя гадзіннікі асобай канструкцыі з месячным заводам" быў прысуджаны яму на Усерасійскай мастацка-прамысловай выстаўцы 1882 года ў Маскве. У Бельгіі Г. Сон атрымаў патэнт на гадзіннікі ўласнай канструкцыі.

Перад рэвалюцыяй вядомым гадзіншчыкам быў А. Лейзяроўскі, які меў майстэрню ў Мінску, на вуліцы Захар'еўскай, дом 70. У 1909 годзе на Міжнароднай выстаўцы гадзіннікаў, ювелірных і механіка-аптычных вырабаў у Пецярбургу асаблівай папулярнасцю ў наведвальнікаў карысталіся арыгінальныя гадзіннікі яго работы.

Корпус гадзінніка ўяўляў сабой замак у гатычным стылі. Праз замак з адных варот у другія праходзіла палатно чыгункі. На версе цэнтральнай вежы ўвесь час хадзіў вартавы. Праз кожныя сем хвілін вартавы на платформе даваў званок, чулася музыка, з сярэдніх варот паказвалася публіка, якую сустракаў жандар. З правых варот замка выязджаў цягнік с пасажырамі. Праз сем хвілін вартавы даваў знак флагам аб спраўнасці пуці, цягнік кранаўся, хаваючыся ў левых варотах, і публіка знікала. У сярэдзіне замка кожныя сем хвілін рука паказвала апісанне гадзінніка. На выраб гадзінніка А. Лейзяроўскі патраціў пяць гадоў.

Гісторыя гадзіннікавай справы з'яўляецца часткай культуры Беларусі і ярка сведчыць аб развіцці навукова-тэхнічнай думкі і практыкі.

**Андрэй КІШТЫМАЎ.**

---

## З НАШАЙ ПОШТЫ

### ЗАПАСНЫ ВАРЫЯНТ АДРАДЖЭННЯ МОВЫ

Дзесяць гадоў, як я пакахаў беларушчыну і сачу за змаганнем за мову і душу народа, што так неспрыяльна ідзе ў Беларусі. Не прызнаюць, лічаць за адхіленне, намагаюцца прыблізіць да сапраўднага становішча — праз збліжэнне правапісу, праз збліжэнне з касцёлам, каб толькі далей ад таго паганства, бальшавіцкай ці польскай выдумкі з мэтай адарваць, адкалоць "крэсы" ці "западную окраину" ад цела Мацежы ці "исконно русского государства".

Вось і цяпер — гэта патавая сітуацыя з рэабілітацыяй правапісу, рэпрэсаванага ў 1933 годзе. Замест таго, каб вярнуць мяккі знак — прапанова выкінуць, дзе толькі можна. А каб моўнае збліжэнне не перапынілася, прапануецца далей захаваць раўнапраўе дзвюх моў, дзвюх дзяржаўных сястрычак — вядома, адна будзе больш роўная. Аніяк не вырвацца з імперскіх абдымкаў — мы ж такія блізкія родзічы, навошта нам яшчэ тыя перажыткі-розніцы, навошта адметнасць дый існасць, хай будзе агульная нават сталіца, не толькі мова.

У такіх умовах перамагчы немагчыма, трэба ўхіліцца, пайсці вакольным шляхам. І такі шлях ёсць — гэта адрадзіць лацінку, як зрабілі братнія народы на поўдні дый на ўсходзе. Правапіс на аснове лацінскіх літар застаўся не скажоны наркомаўскай рэформай, ён лепш за кірыліцу перадае асаблівасці беларускага вымаўлення. Засваенне лацінкі на аснове роднай мовы наблізіць вучняў і да роднае мовы, і да еўрапейскіх моў. Беларуская мова стане на адну плоскасць з іншымі суседскімі мовамі, у тым ліку з польскай. Гэткім чынам створыцца трывалы падмурак для інтэграцыі народа, нягледзячы на канфесійны падзел.

Час пакажа, што зручней — ці лацінка, ці наркомаўка. Народ нічога не страціць, калі будзе ведаць абедзве, прынамсі, не будзе адчужана спадчына апошніх 60-ці гадоў, не парвецца сувязь з усходнімі славянамі, але прыблізіцца і Захад, як і належыць краіне ў цэнтры Еўропы. І не спатрэбіцца аніякай рэформы ці рэрэформы наркомаўкі — у выпадку патрэбы можна будзе аўтаматычна транскрыбаваць лацінскія літары на кірыліцу, дый атрымаецца тарашкевіца. Трэба спадзявацца, што гэта за нас зробяць ужо камп'ютэры. І наркомаўка застанецца як паўфабрыкат, незапатрабаваны матэрыял "великой стройки коммунизма".

**Валдас БАНАЙЦІС.**

Новая Вільня.

### ДУМАЦЬ ПРА ХАРЧЫ

Крызісная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь вымушае многія прамысловыя прадпрыемствы адначасова з вырабам сваёй асноўнай прадукцыі заняцца сур'ёзна нетрадыцыйнай для сябе справай — пошукам шляхоў забеспячэння сваіх работнікаў прадуктамі харчавання.

Так, на Жлобінскім ільнозаводзе, дзе працуе 108 чалавек, у сталовай арганізаваны бясплатныя абеды. А для таго каб яны былі спажыўнымі, ды і самі рабочыя маглі па зніжаных цэнах набыць для сваёй сям'і нешта з мясной прадукцыі, пры заводзе арганізавалі падсобную гаспадарку, дзе гадуюць свіней, бычкоў, пачалі разводзіць авечак. Акрамя гэтага, на прадпрыемстве сваімі сіламі вырошчваюць зерне, бульбу, буракі. Для гэтага было ўзята ў арэнду сорак гектараў зямлі ў адным з бліжэйшых саўгасаў.

А на Беларускім металургічным заводзе, дзе працоўны калектыў складае не адну тысячу чалавек, такімі мерамі харчовую праблему не вырашыш. Па гэтай прычыне тут завялі для сябе цэлую гаспадарку. Яшчэ чатыры гады таму завод заключыў дагавор з мясцовым калгасам "Рассвет" аб сумеснай вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Дагавор разлічаны на семнаццаць гадоў. Завод, выкарыстоўваючы свае фінансавыя і матэрыяльныя магчымасці, узяўся ўмацоўваць матэрыяльна-тэхнічную базу гаспадаркі. Толькі ў мінулым годзе на будаўніцтва аб'ектаў рознага прызначэння прадпрыемствам было ўкладзена каля шаснаццаці мільёнаў рублёў. У калгасе з'явіліся два новыя свінарнікі, цэх па вытворчасці камбікорму, кароўнік, новыя дарогі, дзесяць тыпавых жылых дамоў і шэраг іншых важных аб'ектаў. Дапамагае завод гаспадарцы і з вырашэннем кадравай праблемы. На сённяшні дзень пятнаццаць сем'яў, члены якіх (муж і жонка) лічацца ў штабе БМЗ, працуюць па накіраванню ў калгасе механізатарамі, жывёлаводамі. Да іх ліку належаць таксама аграном і галоўны заатэхнік.

Зразумела, перад завадчанамі не застаюцца ў даўгу і калгаснікі. Толькі ў мінулым годзе яны паставілі заводу амаль 16 тон свініны, некалькі тон ялавічыны, іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. У планах вяскоўцаў і гараджан далейшае паглыбленне супрацоўніцтва.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

# ЗАЯВА

## ПАШЫРАНАЙ КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЙ НАРАДЫ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ, ПАТРЫЯТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЯКАЯ АДБЫЛАСЯ 25 СТУДЗЕНЯ 1993 г. З НАГОДЫ 3-х УГОДКАЎ ПРЫНЯЦЦЯ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ МОВАХ

Нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі – справа гонару і сумлення кожнага грамадзяніна Рэспублікі.

Усведамляючы сваю адказнасць за будучыню Бацькаўшчыны, кіруючыся пачуццём святога абавязку перад народам Беларусі за адраджэнне Роднай мовы і нацыянальнай культуры мы, удзельнікі кансультацыйнай нарады дэмакратычных патрыятычных арганізацый рэспублікі ў складзе палітычных партый і іншых аб'яднанняў – БСДГ, БСП, ПНЗ, НДПБ, ТБМ імя Ф.Скарыны, Саюза пісьменнікаў Беларусі, згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Згуртавання беларускай шляхты пры ўдзеле Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, у адпаведнасці з Дэкларацыяй аб Дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыяй і дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь

### ЗАЯЎЛЯЕМ

пра поўную згоду са статусам беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы, а таксама пра агульнае імкненне кіравацца ў грамадскім жыцці палажэннямі Закона аб мовах, іншымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць моўна-культурныя адносіны ў дзяржаве.

Выказваем рашучы пратэст у сувязі з імкненнем пэўных палітычных груповак і некаторых сацыяльна-абмежаваных груп насельніцтва Беларусі дыскрэдытаваць дзейны Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і перашкодзіць яго ажыццяўленню. Наша Бацькаўшчына –гэта агульны дом для прадстаўнікоў розных нацыянальных супольнасцей, розных канфесій і грамадска-палітычных аб'яднанняў грамадзян Беларусі. Але нас яднае агульная гісторыя і нацыянальна-адметная спадчына, мова беларускага народа, народа, які даў найменне рэспубліцы і стварыў адметную еўрапейскую культуру. З'яўляючыся часткай народа Беларусі, ганебна падымаць руку альбо кідаць непрыхільныя словы, калі гаворка ідзе пра мову народа, пра яго культуру, пра будучыню Бацькаўшчыны.

Мы заклікаем усіх сумленных грамадзян Беларусі незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, палітычных перакананняў, а таксама ад прыналежнасці да канфесіі, прафесійнай суаднесенасці, зрабіць усё, што ад нас усіх залежыць, каб беларуская мова стала паўнапраўным гаспадаром у рэспубліцы. Заклікаем далучыцца да наступных патрабаванняў да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі:

1. Не дапусціць заканадаўчага абмежавання функцый беларускай мовы, як адзіна дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь пры адначасовым забеспячэнні патрэб нацыянальна-культурнага развіцця ўсіх нацыянальных супольнасцей Беларусі.

2. Паслядоўна выконваць палажэнні Закона аб мовах, аб адукацыі, аб культуры, Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь, стварыўшы ўмовы для таго, каб ва ўсіх галінах грамадска-культурнага жыцця Беларусі нацыянальная мова займала ў адпаведнасці з нарматыўнымі актамі рэспублікі пачэснае месца. Распрацаваць на ўзроўні заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў сістэму мер, якая прадугледжвае адказнасць службовых асоб усіх узроўняў у рэспубліцы за няпоўнае і недастатковае выкананне палажэнняў Закона аб мовах. Выяўляць і даваць належную ацэнку ўсім фактам правядзення палітыкі русіфікацыі на дзяржаўным узроўні.

3. Адмовіцца ад выкарыстання ў эфіры новага цалкам рускамоўнага канала тэлебачання на базе Санкт-Пецярбургскага тэлепаказу, калі не створана належных умоў для развіцця ўласнабеларускага эфіру, калі не транслююцца перадачы з Кіева, Вільні і іншых сумежных краін.

4. Аказаць усямерную падтрымку дзейнасці патрыятычных дэмакратычных арганізацый рэспублікі, накіраваную на адраджэнне беларускай мовы, пашырэнне нацыянальнай культуры, фармаванне грамадзянскай супольнасці нацыянальна-свядомых грамадзян Беларусі.

5. Прыкласці намаганні для стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі і інфармацыі, развіцця і ўзбагачэння беларускай культуры і мовы. У першую чаргу неабходна стварыць умовы дзеля папулярызацыі ведаў пра гісторыю Беларусі, выпусціўшы шэраг падручнікаў і дапаможнікаў, а таксама папулярных выданняў пра слаўнае мінулае беларускага народа.

6. Стварыць міжведамасныя грамадска-дзяржаўныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна-патрыятычных і іншых дэмакратычных грамадскіх арганізацый па правядзенні атэстацыі кіруючых кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забеспячэння патрабаванняў Закона аб мовах па пераводзе справаводства на дзяржаўную мову.

7. Звярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасць любых формаў знявагі дзяржаўнай беларускай мовы; у выпадку парушэння дадзенага патрабавання прыцягваць вінаватых да адказнасці ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.

Няма будучыні для дзяржавы, якая не мае дзяржаўнай мовы, няма будучыні ў палітычных структур, якія не ўсведамляюць таго, што Беларусь ёсць, калі мае месца духоўна-культурная лучнасць народа нашай агульнай Бацькаўшчыны. Будучыня за тымі, хто служыць Бацькаўшчыне.

**ВЕЧНА ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ І МАТЧЫНА МОВА!**

**Я.ЦУМАРАЎ — ад камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, ТБМ імя Ф.Скарыны, старшынствуючы на пасяджэнні Кансультацыйнай нарады.**

**А.ТРУСАЎ, старшыня ЦР БСДГ — ад Цэнтральнай Рады БСДГ (Грамады).**

**М.СТАТКЕВІЧ, старшыня БЗВ — ад Беларускага згуртавання вайскоўцаў.**

**Г.КАРПЕНКА, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь — ад ПНЗ (Партыя Народнай Згоды).**

**А.АПРЫШКА — ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.**

**К.ЦВІРКА — ад Беларускай сялянскай партыі.**

**А.ГРЫЦКЕВІЧ, старшыня ЗБШ, намеснік і галоўны сакратар ЗБШ Л.АКАЛОВІЧ — ад Згуртавання беларускай шляхты.**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ — ад Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

ДАСЛЕДЧЫК

АЛЕСЬ

БАРКОЎСКІ

## ЗГАДКА ПРА Ф. АЛЯХНОВІЧА

Беларус Алесь Баркоўскі — уважлівы даследчык беларуска-якуцкіх гістарычных, культурных і літаратурных сувязей. Яно зразумела. Як толькі сыходзіць з Лены снег, спяшаецца мінчанін А.Баркоўскі ў далёкі Якуцк на працу. А надарыцца там вольная хвіліна, то працуе ў мясцовай бібліятэцы, чытае даўнія газеты і часопісы. І шмат што знаходзіць цікавага.

А вось нядаўна Алесь Баркоўскі пазнаёміў якуцкага чытача з урыўкам з успамінаў вядомага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча "У кіпцюрах ГПУ". Справа ў тым, што ў сваіх запісах наш зямляк, прайшоўшы цераз Салаўкі, згадваў і якуцян — сталінскіх вязняў. У цэнтры ўрыўка, падрыхтаванага і перакладзенага на рускую мову А.Баркоўскім, — сустрэча астрожнікаў з Максімам Горкім.

Публікацыя ажыццёўлена ў газеце "Молодежь Якутии".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# "ПОМНІШ, МАМА?.."

Многія з нас, несумненна, чыталі ў свой час кнігу "Ніколі не забудзем" – цяжкія ўспаміны беларускіх дзяцей пра перажытае ў гады вайны. Ёсць у гэтым зборніку і расказ "Нумар 79645" за подпісам Каці Жачкінай. Калі стваралася кніга (а гэта было ў 1946 годзе), Каця вучылася ў Бягомльскай СШ N 1. Памяць яе яшчэ не астыла ад кашмараў гітлераўскага лагера смерці Асвенціма.

Вестка аб вайне застала іх у гарадскім пасёлку Бягомль. Заставацца там было небяспечна: сям'ю камандзіра Чырвонай Арміі А. Жачкіна, які да вайны працаваў у гэтым раённым цэнтры на адказнай пасадзе, маглі выдаць нядобразычліўцы акупацыйным уладам. Вымушана была Надзея Сямёнаўна пакінуць Бягомль і выбрацца на Магілёўшчыну ў вёску Драздова, да сваёй свякрові. Ды тут жылі ўвесь час пад страхам: злыя людзі пагражалі даносам, давялося пабываць па выкліку ў воласці. І зноў прыйшлося шукаць ратунку, перабірацца на новае месца, на гэты раз у Талачынскі раён. Зведалі там нямала ліха. Не змагла маці зберагчы дваіх дачушак-блізнят чатырохгадовых Валю і Раю, якія памерлі ад хваробы і знясілення.

Аднойчы ў поўдзень вёску, у якой былі партызаны, акружылі гітлераўцы. Разгарэўся жорсткі бой, мірныя жыхары спрабавалі ўцячы. Многія трапілі пад варожы агонь. Была паранена ў руку і нагу Надзея Сямёнаўна. Схопленая разам з іншымі, яна апынулася ў Талачынскай турме, а з ёю – дачка Каця і сын Сеня. У цесным сырым скляпенні, дзе штодзень паміралі ад катаванняў і галаду людзі, правялі яны тыдзень. Потым быў канцэнтрацыйны лагер у Мінску, дзе ад хваробы і смерці выратаваў іх рускі доктар-патрыёт.

Аднак выйсці на волю было не суджана. Пасля праведзенага адбору ўсіх, хто лічыўся звязаным з партызанамі, пагналі на станцыю, пагрузілі ў вагоны, і эшалон рушыў на Захад. Суцяшала толькі, што ўдалося выратавацца Сеню. Хворага хлопца ўзяў да сябе той самы добры доктар (яго потым расстралялі фашысты). Толькі пазней, пасля вайны, стала вядома, што Сеня знайшоў шлях да партызан. Цяпер Сямён Жачкін жыве ў Жодзіне, працуе на аўтазаводзе.

А іх, маці з дачкой, чакаў зласвесны Асвенцім. Пры нашай гутарцы Кацярына Апанасаўна (яна якраз прыехала да маці, каб адзначыць яе 80-гадовы юбілей) раз-пораз казала: "Пра гэта вы лепш пачытайце ў кнізе "Ніколі не забудзем". І вось перада мной тыя самыя старонкі яе ўспамінаў, ад якіх вее жудасцю. Яна расказвае, як раздзетых людзей заганяюць у пусты бетонны пакой, раптам нахіляецца падлога, і людзі ў адчаі падаюць уніз, туды, дзе гарыць печ крэматорыя. Яшчэ б хвіліна – і ўсе апынуліся б у вогненным пекле. Але прагучала каманда-адбой. Аказалася, што пунктуальная лагерная служба Асвенціма пераблытала цягнікі са зняволенымі: іх палічылі за партыю яўрэяў, якіх з ходу адпраўлялі ў крэматорый.

Цяжка перадаць у скупых газетных радках, што вынеслі маці і дачка за год няволі ў Асвенціме. У гэтым лагеры смерці Каця была змешчана ў "кіндэрхайм" – дзіцячы дом. Назва гучала здзекліва: у "кіндэрхайме" бралі ў дзяцей кроў, быццам у здаровых донараў. Не шкадавалі і самых маленькіх, і многія, знясіленыя, паміралі.

Пасля Асвенціма быў яшчэ і лагер Бенкербельзен, дзе ўмовы і парадкі былі амаль такія ж. Тут 16 красавіка 1945 года іх, хто цудам уцалеў, вызвалілі англійскія салдаты. "Помніш, мама?" – не раз звярталася Кацярына Апанасаўна пры нашай гутарцы да сваёй матулі. Прыгадалі і тое, як ужо пасля вызвалення, калі ў чаканні вяртання дадому яны паступова ачуньвалі, набіраліся сіл у лагеры зусім іншага прызначэння, Надзея Сямёнаўна была за выхавальніцу. З аднолькавай пяшчотай даглядала адарваных ад бацькоў, ад сваёй радзімы дзяцей розных нацыянальнасцей. Ніколі не забудуць, як прыехалі ў лагер галандскія салдаты, каб забраць сваіх суайчыннікаў і адзін з іх стаў перад "рускай мамай" на калені і пачаў цалаваць ёй рукі.

Застаецца дадаць, што пасля дзесяцігодкі Кацярына Жачкіна скончыла Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. Месцам яе жыхарства стаў горад Ніжні Ноўгарад. Бацькі ж пераехалі ў Гайну, дзе Апанас Фёдаравіч (сёння яго ўжо няма ў жывых) узначальваў сельскі Савет. Надзея Сямёнаўна да выхаду на пенсію працавала санітаркай на мясцовым фельчарска-акушэрскім пункце. Столькі зведаўшы і перажыўшы, яна старалася аблягчыць боль і пакуты людзей, якія звярталіся да іх за дапамогай.

Пад канец нашай гутаркі я не мог не задаць Кацярыне Апанасаўне пытанне: што давала ім сілы вынесці такія жорсткія выпрабаванні лёсу.

– Ведаеце, і ў тых пякельных абставінах мы сустракаліся з праяўленнямі сапраўднай чалавечнасці, спагады і дабрыні. Былі і сярод немцаў людзі, якія гатовы былі з рызыкай для сябе ў нечым дапамагчы нам, зняволеным, падтрымаць. Таму і не засталося ў маім сэрцы і ў душы пачуцця непрыязнасці, тым больш варожасці да нямецкага народа ў цэлым. Бо быў у нас агульны вораг – фашызм. Ужо ў сталым узросце мне даводзілася бываць у Германіі, ёсць у мяне і добрыя знаёмыя з ліку немцаў. Нашы погляды на мінулае, на перажытае супадаюць: вайна – гэта агульнае няшчасце для нашых народаў. І трэба зрабіць усё магчымае, каб ваеннае ліхалеццe ніколі не паўтарылася.

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ:** сустрэліся маці і дачка.

**Фота А. МАСПАНАВА.**

# АРХІЎ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

Ці існаваў асобна спарадкаваны архіў Ластоўскага? Іншымі словамі, архіў БНР за 1918—1923 гады? Бясспрэчна. Тады дзе яго шукаць? Бо 2—3 папкі матэрыялаў у Мінску ад шматгадовай і разнастайнай грамадскай дзейнасці прэм'ера Ластоўскага — гэтага мала.

Вывучаючы ў ЦДАМЛіМе не раз і не два прагледжаныя да мяне іншымі даследчыкамі папкі, распытваў у супрацоўнікаў пра вядомыя сляды архіва БНР. Неяк у адказ спадарыня Сурмач пазнаёміла мяне з лістом, адрасаваным "мужу даверу пры гэнэральным камісару Беларусі дохтару Івану Ермачэнку". 5 чэрвеня 1943 года Кастусь Езавітаў, былы старшыня Вайсковай камісіі пры БНР, дужа цешачыся, "што зацікавіліся нарэшце і справаю Гісторыі Беларускага Адраджэнскага Руху, і належачых да гэтае гісторыі архіваў", з ахвотаю адказаў на паўдзесятка прапанаваных яму пытанняў:

"[...] 2. Архіў Народнага Сакратарыяту і Рады БНР быў пры эвакуацыі з Менску ў снежні 1918 году вывезены міністрам Я. Варонкам у Вільню, а стуль у Коўню, дзе і перахоўваўся ў яго прыватнай кватэры да ад'езду ў Амэрыку. Пры ад'ездзе ён зажадаў добра запакаваць усе архівы і здаць іх на перахоўванне ў транспартную кантору ў Коўні з тым каб, калі будзе ў Беларускага ўраду магчымасць арганізаваць Архіў Беларускі за межамі, дык каб гэтыя дакумэнты былі перададзены туды, дзе будзе магчымым закласці Беларускі Архіў, хаця ж бы нават і пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Амэрыцы.

3. Дзеля невядомых мне прычынаў, Архіў гэты ня трапіў у рукі эміграцыйнага ўраду ў БНР, але быў прададзены транспартнаю кантораю г-ну В. Ластоўскаму, які і перахоўваў яго ў сябе да свайго ад'езду ў Менск [...]".

Вось так ранняя частка архіва БНР трапіла да яе чарговага прэм'ера. У Мінск Ластоўскі перабіраўся вясною 1927 года. Перабіраўся з Коўна. Хутчэй за усё, там і належыць працягваць пошукі. Таму, адсвяткаваўшы Новы год з Калядамі (старымі і новымі), выбіраўся я ў чарговую вандроўку-камандзіроўку ў дарагую сэрцу Вільню з думкай распытаць пра ковенскія архівы наогул. Каўнас — места больш далёкае і абсалютна нам невядомае з архіўнага боку. Да таго ж, не так проста паехаць туды, калі вось ужо трэці год планавая тэма твая ў Інстытуце літаратуры — падрыхтоўка зборніка дакументаў і матэрыялаў пра Францішка Багушэвіча. Багушэвіч, што праўда, Коўна наведваў. Больш таго, пакінуў у спадчыну нізку "ковенскіх экспромтаў", напісаных падчас вандроўкі на чаўнах па Віллі ў ліпені 1897 года. Адным словам, Коўна — места знакаміта, толькі намі прызабыта...

Можна зразумець маю ўсцешлівасць, калі даўні знаёмец, супрацоўнік аддзела рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Летувы Рымантас Ясас дакладна высветліў і паведаміў: усе дакументы часоў Тарыбы (1918—1940) захоўваюцца не ў яе колішняй сталіцы, а тут, за вежай Гедыміна, на Антокалі, у Цэнтральным дзяржаўным архіве Летувы.

На восьмы дзень камандзіроўкі, 25 студзеня, у панядзелак раніцаю, адклаўшы ўбок кансісторскія справы па Ф. Багушэвічу ў ДГА Летувы на Добрай Радзе, паблукаў у процілеглы куток Вільні, на вуліцу Карэйвю. У архіўнай картатэцы выбіраю вопісы чатырох фондаў. Праўда, апошні, ф. 1091 (Беларускі цэнтр у Летуве, 1933—1940 гг.) мне цяпер непатрэбны. Знаёмства ж з астатнімі, асабліва з фондам 582-м, уразіла багаццем. Калі назаўтра пабачу адабраныя мною толькі паўтара дзесятка папак (а ўсяго там ці не паўтары сотні), пашкадую, што гэта знаходка прыйшлася на самы канец камандзіроўкі. Як улетку 1985 года ў перадапошні дзень натрапіў у Львове на архіў Яна Карловіча з пісьмамі Дуніна-Марцінкевіча, Манюшкі, Кіркора, Каратынскага, Ф.Багушэвіча... Тады хоць здолеў зрабіць мікрафільм на паўтысячы кадраў. У Вільні такой паслугі няма.

Праўда, найперш належыць прагледзець усе папкі, зафіксаваць вартае нашай вялікай спадчыны, каб апублікаваць не адзін і не два тамы дакументаў па гісторыі БНР, вярнуць народу яго гісторыю цалкам, найпаўней, а не ў працэджаных ды падтасаваных цытатах.

(Вярнуўшыся ў Мінск, не без здзіўлення пабачу адзінкавыя спасылкі на гэты архіў у манаграфіі М. Сташкевіча "Приговор революции: крушение антисоветского движения в Белоруссии 1917—1925", выдадзенай у год гістарычнага, "апрельского", пленума. Значыць, гісторыкі-марксісты не дарэмна спажывалі свой хлеб "на выпасе ідэй сацыялізму". Толькі чаму па-за іх увагай апынуліся не толькі аўтографы Вацлава Ластоўскага, але і Браніслава Эпімах-Шыпілы, Магдалены Радзівіл, Рамуальда Зямкевіча, невядомыя факты з жыццяпісу Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна?.. Бо не ўкладваліся ў савецкую канцэпцыю?).

... Рэдакцыя прыспешыла мяне падзяліцца з чытачамі "Голасу Радзімы" звесткамі пра матэрыялы БНР у Вільні напярэдадні 75-годдзя БНР. Але перш чым святкаваць 75-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, на ранейшы час прыпадае яшчэ адзін значны юбілей у жыцці Беларусі — 100-годдзе з дня нараджэння яе класіка — Максіма Гарэцкага.

Таму артыкул свой закончу публікацыяй ліста да Вацлава Ластоўскага, подпіс пад якім я расчытаў як "M. Garecki".

**"Даражэнькі Дзяцька Вл—ст.**

**Пішу да вас гэны ліст і баюся, каб ня было позно, бо 25 Верасня зусім бліско. В звязку с тым, што маецца адбыцца нарада ў Празі, у нас было пасяджэнне Нацыянальнага Камітэта, дзе ўсе прынцыпова згадзіліся ехаць на нараду, але даручылі прэзыдыум запытацца і высвятліць некаторыя неяснасці, што было зроблено, пасланы ліст ад Нацыян. Кам., але ешчэ да гэнай пары ніякого адказу не атрымалі.**

**Па маёй йнцыятыве была склікана прыватная нарада ў Вільне, дзе былі запрошаны ўсе адпаведные і актыўные дзеячы дзеля абгавору той самай справы, т.е. паездкі ў Прагу. Зрабіў я гэта дзеля таго, што ў Камітэт не ўсе ўваходзяць актыўные працоўнікі. Пасля гутаркі ў прыватнай нарадзе выяснілася і аднагалосно прышлі да перакананя, што той разкол, які да сёньняшняга дня ёсьць, гэта згуба для Беларускае справы. Патрэбны супольны фронт і кордынац'я сіл. Агульны [с]ход даручыў мне ўзяць на сябе гэную цяжкую справу, не ведаю, ці адолею. Але ўзяў гэта, таму што мне прыходзіцца вельмі адчуваць, стоячы на чале апошняй Беларускай грамацкай палітычнай арганізацыі на бацькаўшчыне. Ня ведаю і для мяне асабіста не зразумела, чаму мы, не забіўшы мядзведзя, узяліся скуру дзяліць, бо мы тут, атрымоўваючы весткі выключна толькі а брудах як з аднаго, так і з другого боку, трацім галавы. і той, хто мог бы хоць трохо працаваць, дык і ў таго рукі адвальваюцца. Нашыя палітыкі пачалі йграць у палітыканства, але паміж сабою, неўжо ж няма заботы больш карыснейшай. А далей да справы. Я гаварыў з Антонам, Сымонам, Тарасом і Аркад'ям. Яны згодны гаварыць аб паразуменні і аб згодзе. Справа за нашай згодай і за тэхнічным ей [?] выкананнем. Я лічу, што згода павіна наступіць перад нарадай (матываў нават ня буду прыводзіць, бо гэта зразумела). [...] Власт зрабеў (зрабіць) усё магчымае ад нас. Каб усё было добра, бо ад гэнаго церпіць Беларуская справа, і досыць ужо іграць у прынцыпы [!] і асабістасьці. Мне здаецца, дарагіе Ковенскія таварышы, калі вы возьмеце гэна да сэрца і шчыра разважыце, то напэўна згодзіцеся ж са мною. Чакаю ад Вас адказы. Ці найлепей было б, каб хто прыехаў у Вільню і тут абгаварылі б, а тады паехалі б у Прагу, тады сапраўды наша нарада была б нарадай сур'ёзнай, а ня выліваннем усё тых жэ брудаў самых на сябе. Чакаю адказу. Кланяюся ўсім, усім.**

**З паважанем
M. Garecki".**

Вільня, 8/IX 21 г.

Ліст напісаны лацінкаю, што дужа нехарактэрна для Максіма Гарэцкага, ураджэнца ўсходняй Беларусі. Калі ж надыдзе час паставіць гэта пытанне на прынцыповы грунт (скажам, уключыць карэспандэнцыю ў эпісталярны раздзел новага Збору твораў М. Гарэцкага), графалагічная экспертыза, спадзяюся, пацвердзіць: ліст напісаны рукою аўтара "Камароўскай хронікі".

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

# ПРАПАГАНДАВАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ПРЫСУТНАСЦЬ У ЗША

10 лютага ў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь прайшоў арганізацыйны сход, на якім "пасведчанне аб нараджэнні" атрымала яшчэ адна грамадская арганізацыя — Клуб беларуска-амерыканскага ўзаемадзеяння ў галіне культуры, навукі, педагогікі. (Дакладная назва клуба будзе вызначана пазней). Сярод удзельнікаў сходу, навукоўцаў, літаратараў знаходзіліся прэзідэнт Акадэміі навук Л.Сушчэня і пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвід Х.Суорц.

Д.Суорц і начальнік упраўлення МЗС Рэспублікі Беларусь У.Шчасны былі абраны ганаровымі прэзідэнтамі клуба.

Мэту стварэння таварыства вызначыў дырэктар Навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны А.Мальдзіс. Яна ў тым, каб садзейнічаць усталяванню больш цесных кантактаў і паразумення паміж нашай рэспублікай і ЗША, спрыяць правядзенню навуковых даследаванняў, выдавецкай дзейнасці, папулярызацыі беларускай прысутнасці, культуры, мовы ў гэтай амерыканскай краіне. Мяркуецца, што гэтыя і шмат якія іншыя задачы будуць вырашацца таксама пры падтрымцы і ўдзеле амерыканскіх беларусаў.

Былі створаны рабочыя органы клуба. Адна з пасад віцэ-прэзідэнта зарэзервавана яшчэ за адным прадстаўніком ЗША.

Ёсць аптымістычныя падставы спадзявацца, што аб практычнай рабоце клуба на карысць Бацькаўшчыны мы даведаемся ў самы бліжэйшы час.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

"Палымяны барацьбіт за волю, праўду і справядлівасць, паэт. Чалавек, які здолеў запаліць людзей нацыянальнай ідэяй", — так гаварыў пра Кастуся Каліноўскага Сяргей Законнікаў. Ён вёў вечарыну, прысвечаную 155-годдзю з дня нараджэння К. Каліноўскага, якая адбылася ў Доме літаратара.

Перш-наперш, я спадзяюся, што ... 

# ЁН — КРЫЖ! ЁН — СКРЫЖАВАННЕ!

*ДА 155-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Кастуся КАЛІНОЎСКАГА*

Вечарына пачалася з адкрыцця выставы, асноўнай тэмай якой было паўстанне 1863 года. Сярод прадстаўленых вылучаюцца работы С. Геруса і М. Купавы. Апошні і прадстаўляў выставу, падкрэсліўшы, што асоба Каліноўскага і паўстанне 1863 года — тэма, якая даўно хвалюе беларускіх мастакоў.

— Шмат гадоў пра паўстанне 1863 года гаварылася ў вульгарным аспекце ці не гаварылася наогул, — сказаў М. Купава. — Сёння мы набліжаемся да сапраўднага тлумачэння падзей, можам сцвярджаць, што ў паўстанні прымаў удзел цвет нацыі — пісьменнікі, музыкі.

Сапраўды, дваране, інтэлігенцыя аб'ядналіся і павялі за сабой сялян. Іх дэвізам былі свабода і справядлівасць. Сёння, у канцы XX стагоддзя, мы па-іншаму змагаемся за іх. Заклік К. Каліноўскага: "За касу, за сякеру" з ягонай газеты "Мужыцкая праўда" — словы з іншай эпохі. Мне ва ўсякім разе хочацца ў гэта верыць. Як і ў тое, што сёння мы зноў і зноў успамінаем Каліноўскага за ягоную любоў да праўды. Памятаеце, у Куляшова: "Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс адмовімся, а праўды не пакінем". Словы Каліноўскага былі яго справай. Ён змагаўся за тое, у што верыў. І яшчэ мы бачым у Каліноўскім прыклад любові да Беларусі. Сяргей Законнікаў напомніў прывітанне каліноўцаў: "Каго любіш? — Люблю Беларусь". Ён жа і сказаў, што нам сёння не хапае пачуцця неабыякавасці да лёсу Беларусі, любові да яе. Далей Законнікаў прадоўжыў:

— Усім нам, хто жыве на Беларусі, якой бы мы ні былі веры, палітычных поглядаў, трэба браць прыклад з Каліноўскага і з ягоных адданых паплечнікаў. Трэба любіць Беларусь. А тое, што Каліноўскі любіў яе, даказвалі многія.

Генадзь Кісялёў нагадаў, што Каліноўскі быў дваранінам. Бліскуча скончыў Пецярбургскі універсітэт. Шляхта ў тыя гады часта лічыла сябе палякамі. Каліноўскі ж — беларус. Аб гэтым сведчыць і мова ягонай "Мужыцкай праўды". Яна беларуская, хоць тэкст і набраны лацінкаю. Дарэчы, каліноўцамі быў абвешчаны часовы ўрад Літвы і Беларусі. "Па сутнасці, была створана літоўска-беларуская дзяржава", — сказаў Генадзь Кісялёў. Далей ён нагадаў, што напачатку адказнасць за няволю беларусаў Кастусь Каліноўскі ўскладаў на царызм. Рускі ж народ "не прыгнятальнікам, а братам нашым хоча быць". З цягам часу яго адносіны да рускіх становяцца больш стрыманымі. Ён разумее, што рускі народ не гатовы для барацьбы. А Мураўёў і яго паплечнікі жорстка падаўлялі паўстанне. Каліноўскі адстойваў свабоду веры, мовы. Аднак падкрэсліваў, што ён і яго сябры не праціўнікі Расіі, калі яна жадае дабра Беларусі, а праціўнікі бедстваў, якія робяць краіну няшчаснай. Мне здаецца неабходным прывесці тут гэтую думку. Па-першае, таму што на вечарыне гучала шмат песень добрых і не вельмі. У многіх з іх неяк зусім непрыгожа выглядаў рускі народ. Тут табе і маскалі з самымі рознымі эпітэтамі, і іншыя. Добра, канешне, што большасць такіх слоў растварыліся і аказаліся зусім не заўважанымі ў разумных інтэлігентных выступленнях. Па-другое, я спадзяюся, што пазіцыя Каліноўскага дапаможа сяму-таму зразумець, што любіць сваю краіну можна без пошуку ворагаў і нянавісці да іншых народаў.

На вечарыне гучалі ўрыўкі з "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскага. Паэты чыталі свае вершы. Адбывалася асэнсаванне асобы і дзейнасці Каліноўскага. Вось як зрабіў гэта Алесь Разанаў:

— Калі мы ўгледзімся ў мысліцельную прастору Беларусі, то асноўны знак, які мы ўбачым, будзе крыж. Крыжам пазначана чалавечае жыццё і час яго смерці. Месца яе. І ўся наша спадчына - - таксама крыж. Часта мы наіўна хвалімся, што маем папярэднікаў — Скарыну, Каліноўскага. Аднак яны існуюць у той меры, у якой ёсць мы. Наша спадчына яшчэ не ўваскрэшана. Яна зможа ўваскрасіцца, калі будзем уваскрашацца мы. Тут простая сувязь. Спадчына — гэта не сума экспанатаў, спадчына — гэта жыццё. Яно можа ўваскрасіць не толькі сучаснікаў, але і продкаў. Ёсць такія часіны, калі вырашаецца лёс краіны, народа. Часіны такія ўвасабляюцца ў выдатных постацях. Кастусь Каліноўскі адносіцца да такіх постацей. Ён — крыж, ён скрыжаванне. Гісторыя магла б адбыцца інакш, толькі знаходзячы свой шлях, арыенцір якраз праз такіх людзей, праз скрыжаванне.

Потым Алесь Разанаў чытаў свой верш. Галоўнае ў ім, як мне здалося, тое, што "прыходзіць час імя і ўваскрашэння". І для Каліноўскага, і для нас, будзем спадзявацца, таксама.

Калі думаеш пра Каліноўскага, неяк не звяртаеш увагі на тое, што быў ён такі малады і прыгожы, і так рана памёр. Ён быў барацьбітом. Так. Але ён быў і проста чалавек. Які гэта быў чалавек, на вечарыне спрабавалі высветліць. Казалі пра ягоную каханую Марысю Ямант, пра яго сяброў.

Адам Мальдзіс назваў Каліноўскага здольным гісторыкам. Так паказаў ён сябе ў адносінах да XVII стагоддзя, "залатога веку" беларускай культуры. Мала хто ў часы Каліноўскага і пасля яго разумеў гэта.

А. Мальдзіс назваў дзейнасць Каліноўскага другім пасля Скарыны беларускім адраджэннем. І яшчэ сказаў:

— Сорак гадоў аддзяляе паражэнне паўстання ад трэцяга беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя. Не было б Каліноўскага, ягонай смерці, не было б таго адраджэння. Таму ганьбай для беларусаў з'яўляецца тое, што і цяпер няма на нашай зямлі помніка Каліноўскаму і музея яго.

Яшчэ ў XIX стагоддзі Каліноўскі хацеў бачыць вольнай сваю Беларусь. Ці дапаможа ён нам сёння стаць нацыяй? Ці здзейсніцца ягоная мара ў канцы XX стагоддзя?

**Алена СПАСЮК.**

*СЛОВА МАЮЦЬ СЯБРЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ*

# СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

З распадам былога Савецкага Саюза культуры шэрагу амаль невядомых раней усходнееўрапейскіх краін зрабіліся нарэшце вядомымі ў свеце, таму што мур, які ўзводзілі афіцыйныя колы і які падтрымліваўся унітарнымі нормамі былых супердзяржаў, нарэшце перастаў існаваць. Сярод тых, хто выкарыстаў гэтыя перамены, былі і адзінаццаць мільёнаў жыхароў Рэспублікі Беларусь, усходнеславянская нацыя з тысячагадовай гісторыяй, а таксама багатай і вельмі адметнай мовай і культурай.

Дзякуючы таму, што праз Беларусь праходзілі рачныя гандлёвыя шляхі паміж Балтыйскім і Чорным морамі, хрысціянства пранікала ў Беларусь як з паўночнаеўрапейскіх краін, што мелі гатычную культуру, так і з Візантыі, праз балканскія краіны. Вынікам гэтага стала вельмі арыгінальнае перапляценне лацінскіх і грэчаскіх духоўных і культурных элементаў, якое адрознівала беларускае хрысціянства ад польскага, расійскага, балтыйскага або ўкраінскага. З 989 года місіянеры з Канстанцінопаля прывозілі з сабой царкоўныя песні, якія хутка распаўсюджваліся і выконваліся віцебскімі, тураўскімі і смаленскімі школьнымі харамі. На беларускай зямлі яны набылі адмысловую форму неўматычнай, або "зкаменнай" песні. Некалькі такіх песняў былі знойдзены зусім нядаўна — уключна з песнямі ў гонар святой Ефрасінні і іншых святых беларускай зямлі. Гэты працэс быў паскораны тым, што хрысціянскія цэрквы грэчаскага і лацінскага абрадаў знаходзіліся ў цесным узаемадзеянні і на нейкі час нават паядналіся ва уніяцтве. У XV стагоддзі ў гарадах і замках Вільні, Слуцка, Міра і Магілёва, а пазней і ў вялікіх кляштарах Супрасля, Жыровічаў і Куцейна з'явіліся і мясцовыя варыянты песень, якія былі запісаны ў прыгожа дэкараваных зборніках, вядомых пад назвай "Ірмалой". Цудоўныя гімны, такія, як "Что мы наречемо святій" (Супрасль), "Да ісполнятся" ("Беларускае"), "Грешных молітвых" (Мірскі) і "Херубіца" (Віленскі, Слуцкі), што захаваліся ў больш позніх зборніках, былі выкарыстаны як музычныя тэмы тагачаснымі кампазітарамі. Грэчаскія, балгарскія і іншыя балканскія канты таксама выконваліся ўвесь гэты час. Такім жа чынам грыгарыянскія жалобныя песні і паліфанічныя гімны часта гучалі ў манастырах Полацка, Бярэсця і Смаленска. Пратэстанцкія ўплывы таксама адыгралі вялікую ролю ў папулярызацыі літаратурных і блізкіх да літургічных кантаў.

Заходні тып нотнага запісу ў беларускіх літургічных кнігах упершыню быў выкарыстаны Багданам Анісімовічам з Пінска, які склаў у 1598 годзе вялікі зборнік "Супрасль Ірмалой". Іншыя багатыя зборнікі, што ўключалі ў сябе цікавыя прыклады рэнесанснай паліфаніі і былі складзены на візантыйскія літургічныя тэксты, былі ў беларускіх версіях на старажытнаславянскай мове запісаны царкоўнымі музыкамі Фёдарам Семяновічам (Супрасль, 1632), ананімным музыкам з Жыровічаў (1649), Цімафеем Куліковічам (Белы Ковель, 1652), манахам Феафілам (Супрасль, 1662), Пархоміем Паценкам (Слуцк, 1669), Гаўрылам Арыянасовічам (Сава Староўск, 1673), Антоніем Кішыцам (Супрасль, 1674), Кірылам Ільінскім (Давыд-Гарадок, 1713), іераманахам Тарасіем (Мінск, 1750), С.Цераховічам (Літва, 1750), Антоніем Таранevічам (Пінск, 1759) і іераманахам Аўраамієм (Вільня, 1764).

Паліфанія, арганная музыка, а таксама пакладзеныя на музыку візантыйскія літургічныя тэксты ("Кантычкі") былі вельмі папулярнымі ў XVII і XVIII стагоддзях. Гэтыя творы, сабраныя ў рукапісных зборніках або надрукаваныя ў "Багагласніках" і "Гральніках", таксама ўзбагацілі беларускую музычную спадчыну, прыўносячы ў яе заходнія элементы. Такія зборнікі, як "Кантычка" (Полацк, 1774), былі надрукаваны "ў нарэччы полацкім" і спяваліся ў час літургіі як заходняга, так і ўсходняга абрадаў. Знакаміты беларускі кант "О мой Божа, веру табе" быў складзены не пазней 1824 года.

У беларускіх цэрквах лацінскага абраду літургія заўсёды вялася на лацінскай мове — аж пакуль яна не была заменена чамусьці польскай мовай (насуперак рашэнням Другога Ватыканскага Сабора 1966 года). Роды Агінскіх у Слоніме і Радзівілаў у Нясвіжы мелі свае ўласныя цудоўныя хары. Т.Ліхач нядаўна знайшла два мясцовыя ананімныя творы XVIII стагоддзя з нясвіжскай калекцыі — выдатную "Імшу" а-мажор і "Рэквіем" для трох галасоў. Далейшыя пошукі ў гэтай галіне, відаць, дазволяць запоўніць і іншыя "белыя плямы" ў гісторыі царкоўнай музыкі ў Беларусі.

У 1776—1795 гадах Беларусь была паступова ўключана ў Расійскую імперыю. У 1839 годзе Брэсцкая унія была ліквідавана, і тысячы традыцыйных "Ірмалояў" і "Багагласнікаў" былі канфіскаваны і спалены па загаду царскага Свяшчэннага Сінода, заменены рускімі праваслаўнымі спеўнікамі. "Уніяцкія" іконы паліліся, а цэрквы русіфікаваліся і перабудоўваліся на маскоўскі манер. Традыцыйныя беларускія песні захаваліся, але ў далёкіх вёсках, асабліва на Палессі, дзе яны спяваюцца і да сёння.

Адраджэнне беларускай царкоўнай музыкі ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя стымулявалася даследаваннямі такіх этнографаў і фальклярыстаў, як Шэйн, Дабравольскі, Нікіфароўскі. Міхаіл Анцаў (1869—1945), які скончыў Пецярбургскую кансерваторыю пад кіраўніцтвам Рымскага-Корсакава, а затым пасяліўся ў Віцебску, дзе ён узначаліў царкоўны хор і выдаваў "Народны лісток", супрацоўнічаў з Раманавым, Нікіфароўскім і іншымі вучонымі. Яго царкоўная музыка спалучае ў сабе ўрачыстасць, лірычнае харство і чуллівасць, якія выразна гучаць у "Херубіцы", "Еўхарыстычным каноне" і "Достойна ест", змешчаных у зборніку "Літургія" (Пецярбург, 1902). Яго творы можна смела параўнаць з творамі П.Чайкоўскага, напісанымі ў гэтым жа жанры.

Дзейнасць Міколы Равенскага (1886—1953) як царкоўнага кампазітара пачалася тады, калі ён спяваў у хоры Мінскага кафедральнага сабора (прыкладна ў 1895 годзе), і працягвалася, калі ён стаў кірайўніком манастырскага хору, а потым хормайстрам у Навагрудку. Яго замілаванне да царкоўнай музыкі супала з вялікай цікавасцю да фальклору. Ён сабраў у Навагрудскім павеце больш за пяцьсот песень. Невядома, ці ствараў ён царкоўную музыку ў маладыя гады, але некаторыя яго невялікія творы, змешчаныя ў зборніку "Літургія", яўна напісаны пад уплывам песень з "Багагласніка", а ў яго "Херубіконе № 2" выкарыстана народная песня "Ці свет, ці світае". На працягу дзесяцігоддзя сталінскіх "чыстак" ён жыў, адчуваючы ўвесь час небяспеку. Пасля 1941 года ён зноў змог прысвяціць сябе царкоўнай музыцы. Сярод яго твораў ёсць цудоўнае "Верую" для сола кантральта і змяшанага хору (1943), "Літургія" для хору, якая была ім перапрацавана для мужчынскіх галасоў, калі яго прызначылі музычным дырэктарам беларускага каледжа Лувенскага універсітэта ў Бельгіі (1950). Яго "Херубікон № 1", "Канон" і "Достойна ест" вылучаюцца як глыбокай духоўнай эмацыянальнасцю, так і прафесіяналізмам. Папулярнасць заваявалі яго гімны "Магутны Божа" і "О Божа ўсеўладны", што сведчаць пра яго майстэрства.

Літургічныя творы найбольш вядомага кампазітара старой школы Аляксея Туранкова (1885-1958) прынеслі яму міжнароднае прызнанне, а некалькі яго ранніх твораў зрабіліся вядомымі ў свеце ўжо ў 1912—1917 гадах. Сярод яго лепшых твораў знаходзяцца "Херубікон" для камернага хору (тут яго натхніла народная песня "Купалінка"), два "Еўхарыстычныя каноны", "Хвалі, душа мая, Госпада", "Вялічыць душа мая Госпада", "Разбойніка благаразумнага" (1912), велікодны "Трапар", "Кантакіён", а таксама гімн "Днесь Христос в Вифлееме". Рэлігійная музыка была прычынай суровых праследаванняў, якія Аляксей Туранкоў перажыў у часы Сталіна, а за свае патрыятычныя песні ён быў асуджаны на дзесяць год пакут у Сібіры. Нягледзячы на тое, што пісаў ён не так і доўга, яго творчасць стала шырокавядомай.

У 1919—1939 гадах у Заходняй Беларусі, якая знаходзілася тады пад польскім панаваннем, музычнае жыццё развівалася даволі паспяхова. У Вільні група таленавітых царкоўных кампазітараў-католікаў аб'ядналася вакол ксяндза А.Станкевіча і К.Галкоўскага (1875—1963). Апошні быў вучнем Рымскага-Корсакава і Глазунова. Сярод іншых у групу ўваходзілі А.Стаповіч, таленавіты уніят-архімандрыт Ф.Абрантовіч (ён напісаў песні "Матачка божая" і "Божа, што калісь"), публіцыст і кіраўнік хору А.Клімовіч, айцец П.Татарыновіч. Гэтыя людзі збіралі беларускамоўныя канты і песні, створаныя пад уплывам грыгарыянскіх жалобных песень.

У выдадзеным у Пінску (1929) палескім зборніку "Обіход" і зборніку "Багагласнік" (Варшава, 1935) мы знаходзім некалькі вельмі цікавых "мясцовых напеваў", якія захаваліся з "уніяцкіх" часоў, у прыватнасці, цудоўную песню "Ныне отпущаеші". Палескі манастыр святога Ануфрыя ў Яблэчне над Бугам стаў на нейкі час творчым цэнтрам, дзе стваралася літургічная музыка. У прыватнасці, там узніклі яшчэ адзін "Херубикон", "Хвалите имя Господне", "Величит душа моя Господа" і іншыя песні. На жаль, вельмі мала захавалася твораў вядомага заходнебеларускага кампазітара Антона Валынчыка (1896—1985), які тады быў студэнтам Варшаўскай кансерваторыі. І гэта варта жалю, бо яго харальныя творы вельмі змястоўныя і багатыя. Да нас дайшоў, у прыватнасці, "Трапар", напісаны ў гонар іконы Казанскай Божай маці. Кастусь Кіслы (1898—1985), які пэўны час быў кіраўніком хору ў Беластоку, сабраў і выдаў у 1957—1963 гадах у Кліўлендзе (ЗША) цэлы шэраг падляшскіх велікодных і іншых "мясцовых напеваў". Зусім мала вядомы таксама творы Якуба Сямашкі (1916—1940), які працаваў кіраўніком грэка-каталіцкага парафіяльнага хору ў Дзяляцічах. Уся аналагічная творчасць, магчымая пры польскім панаванні, скончылася ў 1945 годзе (за выключэннем Падляшша). Беларуская царкоўная музыка далей ужо развівалася толькі ў эміграцыі.

Безумоўна, найбольш значны ўклад у адраджэнне беларускай царкоўнай музыкі ўнёс кампазітар-эмігрант Мікола Куліковіч-Шчаглоў (1897—1969). Вядучыя савецкія крытыкі станоўча ацэньвалі яго творчасць у перыяд да 1939 года, а нямецкія крытыкі ў час вайны пісалі пра Куліковіча як пра беларускага Мусаргскага. Яго свецкія творы небеспадстаўна параўноўвалі з творамі Шумана і Шастаковіча. У юнацтве ён быў студэнтам харальнага аддзялення прэстыжнай маскоўскай сінадальнай школы, дзе яго настаўнікам быў буйны рэфарматар рускай царкоўнай музыкі Аляксандр Кастальскі, потым скончыў Маскоўскую кансерваторыю па класу Іпалітава-Іванава. Вярнуўшыся на родную беларускую зямлю, ён стаў вядо-

---

**Са згоды і благаславення прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адама Мальдзіса мы пачынаем новы раздзел на старонках "Голасу Радзімы", матэрыялы якога будуць друкавацца пад гэтай рубрыкай. Спадзяёмся, што рубрыка будзе з'яўляцца ў газеце рэгулярна, і нашы чытачы адкрыюць для сябе шмат нязведанага, цікавага. Першым выступае сёння ў гэтай рубрыцы сябар МАБ з Англіі Гай дэ Пікарда. Але адкрывае яе, натуральна, прэзідэнт МАБ Адам Восіпавіч МАЛЬДЗІС.**

## АСАЦЫЯЦЫЯ РАСПАЧАЛА НОВЫ ГОД

Нялёгкім, але даволі плённым быў мінулы год для Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — год станаўлення, пошукаў свайго аблічча. Нягледзячы на арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасці, нам удалося зрабіць некалькі карысных спраў. Сярод іх — Міжнародная навуковая канферэнцыя ў Маладзечне "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў", матэрыялы якой здадзены ў выдавецтва, Міжнародны круглы стол "Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім" (матэрыялы выдадзены), беларуска-англійская сустрэча ў Лондане, беларуска-літоўская сустрэча ў Гервятах, сумесныя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас, у Вільнюсе. Некалькі плённых канферэнцый наладзілі польскія беларусісты. З дапамогай МАБ скіраваліся з Беларусі за граніцу стажоры — у Лондан (тут вялікую дапамогу аказвае віцэ-прэзідэнт асацыяцыі Д. Дзінглі), Рым, Оксфард. У Венецыі прайшлі першыя беларуска-італьянскія чытанні, матэрыялы якіх таксама рыхтуюцца (паралельна на дзвюх мовах) да друку. Нямала беларусістычных публікацый на рахунку ў сяброў асацыяцыі М. Абала (Рыга), М. Банькоўскі-Цуліг (Цюрых), Г. Бідэра (Зальцбург), А. Каўкі (Масква), М. Львовіч (Харкаў), А. Насовіча (Беласток), Р. Радзіка (Люблін), Г. Юмарта (Чэбаксары) і інш. Перавыдадзены рэпрынтным спосабам некаторыя рэдкасці (у тым ліку "Тралялёначка" Ф. Багушэвіча, копію з адзінага экземпляра якой прыслаў з Кракава З. Нядзеля). Здадзены ў выдавецтва перакладзеныя на беларускую мову кнігі сяброў МАБ В. Кіпеля, Ю. Туронка, А. Цеханавецкага, першы выпуск "Беларусікі".

Не менш напружаным абяцае быць і 1993 год. Адна з галоўных яго сустрэч — Міжнародная канферэнцыя "Рым-IV" (Гродна, 28 чэрвеня — 2 ліпеня), прысвечаная суадносінам нацыянальных і рэгіянальных культур Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, іх пагранічча. У час яе адбудзецца і пасяджэнне камітэта МАБ. Беларуска-польская канферэнцыя (з польскага боку яе рыхтуе фонд А. Фрыча Маджэўскага), прысвечаная супольнаму гістарычнаму мінуламу, адбудзецца 20-23 красавіка ў Брэсце. Англійскія беларусісты ладзяць у канцы сакавіка прадстаўнічае абмеркаванне актуальных праблем беларускага адраджэння. Сябры МАБ прымуць актыўны ўдзел у XI Міжнародным кангрэсе славістаў (Браціслава), канферэнцыях у Будапешце, Лілі, Любліне і іншых гарадах Еўропы.

Адна з важнейшых падзей 1993 года — сусветны з'езд беларусаў, які мяркуецца правесці ў ліпені. Сумесна з Цэнтрам імя Ф. Скарыны і "Бацькаўшчынай" МАБ выступіла ініцыятарам стварэння ў будынку б. Інбелкульта Усебеларускага дома, які, спадзяёмся, адкрыецца ў час з'езда. У ім будзе музейная зала "Беларусы ў свеце", экспазіцыі, прысвечаныя Ф. Скарыне, Інбелкульту, беларуска-іншанацыянальнаму культурнаму ўзаемадзеянню, Банк інфармацыі, сядзібы Цэнтра, "Бацькаўшчыны", МАБ. З розных краін цяпер паступаюць для Усебеларускага дома кнігі, рукапісы, карціны, музейныя экспанаты. Зроблены першыя ахвяраванні (Ю. Станкевіч з ЗША, В. Целеш з Латвіі і інш.).

Па ініцыятыве Беларускага фонду культуры і МАБ у Нясвіжы адбудзецца міжнародная сустрэча Радзівілаў і іншых магнатаў-ураджэнцаў Беларусі. У час яе мяркуецца стварыць Міжнародны фонд "Нясвіж — кляйнот Беларусі".

Яшчэ адзін наш клопат — умацаванне выдавецкай, матэрыяльнай базы. МАБ выступіла адным з заснавальнікаў навукова-вытворчага цэнтра "Аднова", якой адна з нямецкіх фірм бясплатна выдзеліла афсетную друкарскую машыну. Узначаліў справу вопытны і энергічны прадпрымальнік, у мінулым настаўнік А. Кудрэйка.

Камітэт МАБ імкнецца забяспечыць сяброў МАБ новымі беларускімі выданнямі — пакуль што (з увагі на сціпласць сродкаў) самымі неабходнымі. У адказ мы атрымоўваем зарубежныя публікацыі, бібліяграфічную інфармацыю, якая выкарыстоўваецца беларускімі навукоўцамі.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

мы як выкладчык музычнай тэорыі ў Мінскай кансерваторыі. Узгадаваны на народнай музыцы заходняй Смаленшчыны, Kyлiковіч напісаў свае першыя рэлігійныя творы ("Літургія", "Весперс і Мацінс"), абапіраючыся на беларускія фальклорныя матывы. У сваіх пошуках аўтэнтычнасці ён эксперыментаваў у розных стылях, уключна з познерамантычным і неабарочным, пакуль нарэшце ў 1959 годзе не звярнуўся да толькі што знойдзеных тады песень XVI—XVIII стагоддзяў са зборніка "Ірмалогія", якія ён апрацаваў згодна з канонамі народнай музыкі. Калі М.Куліковіч стаў кіраўніком хору беларускай уніяцкай парафіі ў Чыкага, дык напісаў шэраг песень для выканання ў цэрквах як грэчаскага, так і лацінскага абрадаў. Куліковіч быў найбольш пладавітым кампазітарам беларускага замежжа, і многія яго творы адразу прыцягнулі да сябе ўвагу слухачоў. Пазней яны былі выдадзены пасмяротна ў такіх замежных зборніках царкоўнай музыкі, як "Беларускі царкоўны спеўнік" (Лондан, 1979, спонсарам выступіў тут вялікі аматар музыкі біскуп Часлаў Сіповіч), "Беларускі духоўны спеўнік" (Лондан, 1989) і "Беларускі царкоўны спеўнік II" (Лондан, 1991). Гэтыя зборнікі прынеслі Куліковічу славу аднаго з найвялікшых майстроў еўрапейскай царкоўнай музыкі.

Пасля саракагадовага перыяду стагнацыі, выкліканай сталінскім панаваннем, у 60-х гадах узмацнілася цікавасць да пошукаў царкоўна-музычнай спадчыны. Вялікая роля тут належыць такім музыказнаўцам і бібліёграфам, як Л.Касцюкавец з Мінска і І.Ясіноўскі з Львова. Гісторык культуры А.Мальдзіс таксама адыграў пэўную ролю ў пашырэнні на беларускай зямлі тых традыцый царкоўнай музыкі, што былі захаваны эміграцыяй.

Святкаванне тысячагоддзя хрысціянства на Русі стымулявала агульную цікавасць да царкоўнай музыкі. Вялікую ролю ў папулярызацыі літургічных твораў Анцава, Туранкова, Равенскага, Куліковіча-Шчаглова і іншых прадстаўнікоў нацыянальнай школы адыгрываюць сёння такія калектывы, як хор Акадэміі навук Беларусі (дыр. Тамара Слабодчыкава), цудоўны Дзяржаўны камерны хор Беларусі (дыр. Ігар Мацюхоў), Гродзенскі камерны хор (дыр. Ганна Стрыха) і адноўлены хор радыё і тэлебачання (дыр. прафесар Віктар Роўда). Слухачы Беларусі і іншых краін Еўропы цяпер могуць ацаніць беларускую царкоўную музыку, параўнаць яе з музыкай іншых, больш вядомых усходнеславянскіх школ. Беларускую музыку прымаюць з такім энтузіязмам, які нельга было нават прадбачыць.

Усё больш маладых і сталых беларускіх кампазітараў праяўляюць цікавасць да царкоўнай музыкі. Арыгінальныя літургічныя гімны А.Бандарэнкі ("Эўхарыстычны канон", "Пахавальны трапар", 1991) былі станоўча ацэнены на музычных фестывалях у Германіі, Чэхіі, Нарвегіі і Польшчы. Кампазітар А.Хадоска напісаў шэраг твораў ("Алілуя", "Маленькі гімн", 1992), у якіх можна знайсці матывы з беларускага зборніка "Ірмалогія" XVII стагоддзя. Зборнік песень для каталікаў лацінскага абраду "Спявальныя часткі святой імшы з песнямі" выйшаў з друку ў Мінску ў 1991 годзе. І гэта быў першы зборнік царкоўнай музыкі, які з'явіўся тут на беларускай мове пасля 1917 года.

**Гай дэ ПІКАРДА.**
**Пераклаў з англійскай мовы Юрась ЖАЛЕЗКА.**

Лондан.





**Жывуць гэтыя жанчыны ў Бярозаўскім раёне ў вёсцы з прыгожай назвай — Міжлессе. Нехта з іх яшчэ працуе ў калгасе "Чырвоны сцяг", а іншыя ўжо на пенсіі — няньчаць унукаў, даглядаюць хатнюю гаспадарку. Аб'ядноўвае ж іх бязмежная любоў да народных песень, тых, што спявалі некалі ім матулі і бабулі і якія яны самі сёння перадаюць маладым, удзельнічаючы ў фальклорным ансамблі.**

**... Мерна парыпвае кола старога калаўрота , бяжыць з-пад хуткіх пальцаў бясконцая нітка, і гучыць песня. Пяецца ў ёй пра нялёгкае сялянскае жыццё, светлае каханне, пра родную зямлю, мілейшай за якую няма на свеце.**

**НА ЗДЫМКАХ: каля дваццаці гадоў выступае ў фальклорным ансамблі Хрысціна ГАРДЗЕЙ; удзельніцы фальклорнага калектыву з вёскі Міжлессе.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*

# ЯГО АРЫШТОЎВАЛІ ТРЫ РАЗЫ

Так сталася, што напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага нам давялося адзначаць і сумны, горкі юбілей — 55 гадоў з дня яго смерці. Тут варта заўважыць, што дата смерці пісьменніка была недакладнаю. Ва ўсіх энцыклапедыях, манаграфіях, даведніках апошні радок біяграфіі кароткага жыцця Максіма Гарэцкага быў лаканічнапросты: "Памёр 20 сакавіка 1939 года". Дзе, чаму памёр пісьменнік у няпоўныя 45 гадоў, было невядома. Афіцыйная даведка, якую атрымала жонка М. Гарэцкага Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая, сведчыла, што Максім Іванавіч памёр ад "кровоизлияния в мозг" у лагеры ў Ухце Комі АССР 20 сакавіка 1939 г.

Публікацыя ў газеце "Літаратура і мастацтва" акадэміка Радзіма Гарэцкага пад назвай "Расстрэл Максіма Гарэцкага" была сапраўднай сенсацыяй. Стала вядома, што Максім Гарэцкі быў расстраляны 10 лютага 1938 года ў вяземскім ГУЛАГу.

Напярэдадні юбілею мне пашчасціла сустрэцца з Радзімам Гарэцкім, пляменнікам Максіма Гарэцкага, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі. Пачалі мы гаворку з радаводу Гарэцкіх.

Радзім Гаўрылавіч расказаў, што радаслоўнае дрэва Гарэцкіх пачынаецца з Магілёўшчыны, з вёскі Малая Багацькаўка, дзе 18 лютага 1893 года нарадзіўся Максім Гарэцкі. Карэнні гэтага дрэва вельмі моцныя: дзед Максіма Гарэцкага пражыў 100 гадоў, а прадзед па маці — 115. Бацьку Максіма Гарэцкага таксама было нямала — 89 гадоў, і памёр ён ад тыфу. А маці ў 72 гады памерла ў час аперацыі: яна надарвалася, цягаючы мяшкі. Але, на жаль, сам Максім Гарэцкі пражыў надта мала, менш за 45 гадоў і памёр таксама не сваёй смерцю.

— Яго арыштоўвалі тры разы, — расказваў Радзім Гарэцкі. — Першы раз гэта было ў 1922 годзе ў Вільні. Яго арыштавала літоўскае буржуазнае кіраўніцтва за пракамуністычную дзейнасць, таму што ён дома хаваў камуністаў і літаратуру дапамагаў хаваць. Яго ледзь не расстралялі ў той час.

Потым, ужо ў 1930 годзе, калі пачалася плынь "пасадак" за нацдэмаўшчыну, Максім Гарэцкі быў другі раз арыштаваны па справах "Саюза вызвалення Беларусі" і "Працоўнай сялянскай партыі". Адначасова, таксама другі раз, быў арыштаваны і брат Максіма Гарэцкага, Гаўрыла Іванавіч, мой бацька, які ўжо быў акадэмікам, заснавальнікам нашай Акадэміі навук, узначальваў Беларускі інстытут лясной і сельскай гаспадаркі. А Максім Гарэцкі працаваў у Інбелкульце, потым у Акадэміі навук у так званай тэрміналагічнай камісіі.

У 1930 годзе Максіма Гарэцкага прысудзілі да пяці гадоў высылкі ў Вятку, а Гаўрылу Гарэцкага чакала "высшая мера наказания", потым расстрэл замянілі дзесяццю гадамі высылкі на Салаўкі, але па дарозе яго забралі на Беламорска-Балтыйскі канал.

Праз 5 гадоў Максіма Гарэцкага вызвалілі, і, каб быць бліжэй да Беларусі, ён з сям'ёй пераязджае ў Смаленск, там настаўнічае. Але надышоў 1937 год, год "троек", калі дабіралі і дабівалі "ворагаў народа". У той год Максіма Гарэцкага арыштавалі, і з таго часу сям'я больш не бачыла яго.

— Радзім Гаўрылавіч, якім чынам вам удалося знайсці сапраўдныя дакументы пра апошнія гады жыцця Максіма Гарэцкага?

— У канцы мінулага года я звярнуўся да намесніка старшыні КДБ з просьбай паглядзець справы бацькі і дзядзькі. Мяне там вельмі добра прынялі і дазволілі пазнаёміцца са справамі. Я паглядзеў дакументы, якія датычацца маіх родзічаў, а потым папрасіў усё ж даць запыт у Смаленск і Калугу: можа там ёсць справа майго дзядзькі? І праз некаторы час прыслалі з калужскага КДБ справу. Я яе гартаў, чытаў. Гэта такая, ведаеце, на дрэннай паперы невялічкая папка, дзе ўсё падрабязна было напісана, як арыштавалі, як забралі і г.д. Я гартаў, чытаў і калі раптам прачытаў на маленечкай паперцы (прычым, там было ўсё надрукавана, і толькі ад рукі ўпісаны імёны і што зроблена), тут я ледзь не самлеў, таму што на ёй было напісана: Максіма Гарэцкага расстралялі 10 лютага 1938 года. Так стаў вядомы тэрмін, калі ён загінуў. Раней жа была хлусня. Ён загінуў не ад "кровоизлияния в мозг" і не ў 1939 годзе, а яго расстралялі вельмі хутка пасля таго, як арыштавалі. Узялі яго ўвосень 1937-га, а ўжо ў лютым, 10-га 1938 года, расстралялі, відаць, у Вязьме.

Жонка Максіма Гарэцкага ўспамінала, што яна вазіла туды перадачу і зусім незадоўга да яго смерці перадавала яе. Ад мужа была апошняя запіска, дзе ён пісаў: усё добра, не хвалюйцеся. А на самай справе ён ужо быў прысуджаны да расстрэлу.

А яшчэ пазней, калі Гарэцкага расстралялі, Леаніла Усцінаўна была ў Вязьме і рабіла запыт, спрабуючы даведацца, дзе ён. Дык ёй адказалі, што ён у турме і пазбаўлены права перапіскі. М. Гарэцкі ўжо забіты, а ёй адказваюць, як быццам ён жывы. Падчас хрушчоўскай "адлігі", калі пачалася першая хваля рэабілітацый, на афіцыйны запыт была атрымана даведка аб смерці Максіма Гарэцкага. У ёй пазначана: прычына смерці — "Неизвестно. Расстрелян"; месца смерці — "Неизвестно. Россия".

— Цяпер мы ведаем, што ён расстраляны ў Вязьме, — закончыў Радзім Гаўрылавіч, — я думаю, што хутчэй за ўсё гэта вяземскія "Курапаты". І ведаем, што гэта было 10 лютага 1938 года.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

# ТРАДЫЦЫІ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

На апошнім студзеньскім пасяджэнні беларускай суполкі ў Санкт-Пецярбургу адбылося абмеркаванне кніжкі, якая ўбачыла свет... толькі праз 169 гадоў пасля яе напісання.

Гаворка ідзе пра кнігу "Беларуская іерархія", напісаную вядомым беларускім гісторыкам і археографам протаіерэем Іванам Грыгаровічам.

Падрыхтаваная да друку яшчэ ў 1824 годзе, яна не была ўхвалена Свяшчэнным Сінодам, і далейшы яе лёс загадкавы і няясны: ці набор быў рассыпаны, ці — гэта таксама версія, якая чакае ўдакладнення, — было зроблена некалькі адбіткаў, але дзе яны цяпер, невядома, мо і дагэтуль ляжаць у якім схованцы, і каму-небудзь з даследчыкаў мінуўшчыны пашчасціць знайсці іх.

Дзякуючы намаганням Міколы Нікалаева, які нечакана знайшоў рукапіс гэтай працы і пераклаў твор Грыгаровіча на беларускую мову (кніга мелася быць дадаткам да "Истории российской иерархии" іераманаха Амвросія і таму пісалася па-руску), кніжка Івана Грыгаровіча "Беларуская іерархія" ўбачыла нарэшце свет у той краіне і на той мове, дзеля якой яна ўвогуле і пісалася, — на Беларусі.

# АД МЕНУЭТА – ДА ІМПРАВІЗАЦЫІ

У Барысаўскай музычнай школе адбыўся незвычайны канцэрт: на сцэне гучалі творы, напісаныя вучнямі. Як вядома, "Надзея-92", Рэспубліканскі конкурс юных кампазітараў, адбыўся ў канцы мінулага года ў Гродне. У ім удзельнічалі і барысаўскія школьніцы Наташа Ціханава, Юля Лапковіч (педагог Т. Дарафеева). Прыемна павіншаваць іх з поспехам.

Імкненне да творчасці закладзена ў самой прыродзе чалавека. Але, як кажуць псіхолагі, толькі раз у жыцці мы бываем творцамі ў галіне мастацтва — у дзяцінстве. Няхай нескладаныя жанры прагучалі ў канцэрце — варыяцыі, вальсы, полькі, менуэты, песні, але і юныя аўтары, і выканаўцы ўсвядомілі сябе асобамі, настроіліся на высокае, духоўнае. Менавіта гэтага якраз і не хапае ў наш час. Цікавы момант канцэрта — імправізацыя на чорных клавішах раяля. Наташа Грыцкова (клас Н. Гуцул) па заказу слухачоў выканала мініяцюрныя п'ескі розных жанраў. Выпускнік школы Уладзімір Нявolін сыграў джазавыя кампазіцыі. А выкананне менуэта суправаджалася танцам: на дапамогу юным кампазітарам прыйшлі навучэнцы харэаграфічнага аддзялення СШ N 2. У горадзе знайшліся спонсары: аб'яднанне "Белмузінструменты", МПА "Панацэя", якія дапамаглі ператварыць вечар у сапраўднае свята.

*З ЖЫЦЦЯ СУПЕРЗОРКІ*

# ВЯРНУСЯ ДА ЖОНКІ Ў АМЕРЫКУ

Шасціразоваму чэмпіёну барселонскай Алімпіяды гімнасту з Мінска Віталю Шчэрбе ў Нью-Йорку быў уручаны прэстыжны ў спартыўным свеце міжнародны прыз "Прыз Джэсі Оўэнса".

Гэтым прызам узнагароджваецца "самы выдатны спартсмен года, якому ўласцівы такія ж высокія чалавечыя і спартыўныя якасці вялікага алімпійца", якімі валодаў Джэсі Оўэнс. Як адзначыў на ўрачыстай цырымоніі ўручэння ўзнагароды, якая праходзіла ў атэлі "Уолдорф-Асторыя", прэзідэнт Фонду імя Оўэнса Герберт Даглэс, "лепшы спартсмен года вызначаецца з шэрагу кандыдатаў шляхам апытання, якое праводзіцца сярод самых аўтарытэтных міжнародных экспертаў". У своеасаблівы "фінал" на гэты раз выйшлі разам са Шчэрбам дзве амерыканскія "зоркі" бегавой дарожкі — Кевін Янг і Джэкі Джойнер-Керсі. Гімнаст з Беларусі атрымаў 104 галасы, яго "сапернікі" адпаведна — 80 і 58.

Прыз уяўляе сабой вялікі бронзавы шар дыяметрам прыкладна 50 сантыметраў, дзе выгравіраваны фігуры спартсменаў, якія сімвалізуюць розныя віды лёгкай атлетыкі.

Ідэя заснавання "Прыза Джэсі Оўэнса" належыць Герберту Даглэсу, у мінулым славутаму амерыканскаму скакуну ў даўжыню. Паводле слоў Даглэса, менавіта яго кумір Оўэнс натхняў на спартыўныя дасягненні. У 1980 годзе Даглэс здолеў ажыццявіць сваю мару — стварыць Фонд імя Оўэнса, а ў наступным годзе быў ужо прысуджаны першы прыз яго імя. Яго атрымаў амерыканскі канькабежац Эрык Хайдэн — пяціразовы чэмпіён Алімпіяды ў Лейк-Плэсідзе.

Як расказаў Віталь Шчэрба (яму месяц назад споўніўся 21 год), ён прыехаў у ЗША разам з жонкай Ірынай, якая "хутка павінна стаць маці". У Мінску, адзначыў ён, "я бегаю па горадзе і шукаю, дзе б знайсці паесці, дзе б купіць адзенне і мэблю для новай кватэры, дзе б дастаць бензін, пастаянна даводзіцца вырашаць нейкія праблемы. А яшчэ ж трэба трэніравацца. У мяне, працягваў гімнаст, заключаны дагавор з федэрацыяй Беларусі, што я буду яшчэ па меншай меры 4 гады выступаць за зборную Беларусі, у тым ліку на чарговай летняй Алімпіядзе. Але я магу заключыць таксама кантракты з кім хачу і як хачу. Як зрабілі многія хакеісты, заключыўшы кантракты з амерыканскімі клубамі". На пытанне, ці ёсць якія-небудзь канкрэтныя прапановы з боку амерыканцаў, Віталь Шчэрба, у прыватнасці, адказаў: "Я не хачу цяпер нічога гаварыць. Магу толькі сказаць, што не збіраюся станавіцца грамадзянінам ЗША. У той жа час хачу, каб у маіх дзяцей было добрае жыццё. Амерыканцы пасялілі нас у спартыўным гарадку ў Пенсільваніі, там ёсць гімнастычны цэнтр, дзе я трэніруюся. Жывём у катэджы. Жонка, хутчэй за ўсё, пасля нараджэння дзіцяці прабудзе тут яшчэ месяцаў 8—9.

Што датычыць спартыўных планаў, адзначыў Шчэрба, то праз месяц я прыму тут удзел у сваіх першых спаборніцтвах у гэтым годзе — адкрытым Кубку Амерыкі. На іх мы ўжо будзем выступаць па новых правілах. Паглядзім, як я выступлю, і тады змагу ўжо дакладна сказаць, ці здолею дастойна сапернічаць з моладдзю. У сярэдзіне сакавіка я паеду на спаборніцтвы ў Германію, затым у Мінск, дзе буду рыхтавацца да чэмпіянату свету-93 у Бірмінгеме. Пасля вярнуся да жонкі ў Амерыку. Тут у мяне намечаны паказальныя выступленні, а таксама прыму ўдзел у прафесійным чэмпіянаце свету ў маі гэтага года".

Адначасова з Віталем Шчэрбам на цырымоніі ва "Уолдорф-Асторыі" "Прыз Джэсі Оўэнса" быў уручаны прэзідэнту Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуану Антоніо Самаранчу, як чалавеку, які "ўнёс значны ўклад у развіццё сусветнай супольнасці з дапамогай спорту".

БЛІЗКАЕ ЗАМЕЖЖА

## ГУЧЫЦЬ НА ВІЛЕНШЧЫНЕ МОВА СКАРЫНЫ

Ужо год на факультэце славістыкі Вільнюскага педагагічнага універсітэта працуе беларускае аддзяленне, якое рыхтуе настаўнікаў для будучых беларускіх школ у Літве. Адкрыццё кафедры беларусазнаўства як цэнтра па арганізацыі беларускіх навучальных устаноў — з'ява заканамерная, абумоўленая багатай віленскай гісторыяй, культурнымі і асветніцкімі традыцыямі.

З верасня мінулага года ў СШ N 13 горада Вільні пачаў працаваць першы беларускі клас. Пры складанні прагімназічнай праграмы, па якой займаюцца вучні, быў улічаны вопыт Гродзенскай беларускай гімназіі.

Выпускнікі беларускіх школ і гімназій, праца па адраджэнню якой распачата нашай кафедрай, будуць мець магчымасць на льготных умовах атрымаць адукацыю на Беларусі. Ужо сёння яны могуць быць накіраваны кафедрай беларусазнаўства пры пасрэдніцтве Міністэрства адукацыі Беларусі на вучобу ў беларускія вышэйшыя навучальныя і сярэднія спецыяльныя ўстановы.

Кафедра наладзіла цесныя кантакты з беларускімі дзяржаўнымі і навучальнымі ўстановамі, грамадскімі арганізацыямі, якія значна дапамагаюць у працы аддзялення. Мы шчыра ўдзячныя шматлікім бібліятэкам, асабліва Гродзенскай абласной, Віцебскага педагагічнага інстытута і Гродзенскага універсітэта, кафедры беларускай мовы Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны і факультэту беларускай філалогіі і культуры Мінскага педагагічнага універсітэта, міністру адукацыі спадару В. Гайсёнку і шматлікім супрацоўнікам міністэрства, у якіх знаходзім разуменне сваіх праблем.

Наперадзе яшчэ шмат цікавых падзей і планаў. Галоўнае ж бачыцца ў тым, што з адкрыццём беларускага аддзялення з'явіліся маладыя сілы, здольныя зрабіць рэальнасцю аднаўленне беларускага школьніцтва на Віленшчыне.

**Лілея ПЛЫГАЎКА,**
**загадчык кафедры.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



**ПРАЖАНІК Канстанцін Мікалаевіч** шукае сваякоў: цётку — **ПРАЖАНІК Валянціну Канстанцінаўну** (па мужу — МАМОНЬКА) і дзядзькоў — **ПРАЖАНІКА Іосіфа Канстанцінавіча**, **ПРАЖАНІКА Марціна Канстанцінавіча** і **ПРАЖАНІКА Уладзіміра Канстанцінавіча**. Яны выехалі з Беларусі яшчэ да вайны ў Буэнас-Айрэс. Да 1970 года з Аргенціны прыходзілі пісьмы. Потым сувязь перарвалася.

У дзядзькоў і цёткі ёсць дзеці. Магчыма і яны адгукнуцца на гэту аб'яву.

Просьба пісаць на адрас:

**222622, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Нясвіжскі раён, п/а Навасёлкі, в. Амлынцы, д. 34. ПРАЖАНІКУ Канстанціну Мікалаевічу.**

**НА ЗДЫМКУ: (злева направа) А.МАМОНЬКА (муж Валянціны Канстанцінаўны), В.ПРАЖАНІК, сын Мамонькаў Іосіф, маці Валянціны Канстанцінаўны, Марцін ПРАЖАНІК.**

Прошу вас помочь разыскать мою сестру, **КОРНУСЬ Татьяну Сергеевну**. Во время Великой Отечественной войны она ушла на войну в качестве санитарки и домой не вернулась. Есть сведения, что она якобы уехала вместе с другом в США. Родилась Татьяна на Украине в д. Корсуновка Полтавской обл., Лохвицкого р-на. Там она и жила до выезда. Убедительно прошу тех, кто что-либо знает о моей сестре, сообщить мне по адресу:

**Беларусь, 225710, Брестская обл.,**
**г. Пинск, ул. Урицкого, д. 5, кв. 4.**
**КОРНУСЬ Татьяне Андреевне.**

**ПОЛТОРАН Ольга Семеновна** (девичья фамилия **ЛЕШУК** или **ЛЕЩУК**) разыскивает отца **ЛЕШУКА Семена Николаевича** 1893 года рождения и членов его семьи, уехавших после революции в США. Всех, кто что-либо знает о семье **ЛЕШУКА С.Н.**, просим сообщить в редакцию или по адресу:

**Беларусь, 247940, г. Петриков, пер. Чапаева, 5.**
**ПОЛТОРАН Ольге Семеновне.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### КАПУСТА ВЯСКОВАЯ

Качан капусты,з якога зняты пашкоджаныя лісты, разрэзаць на кавалкі разам з храпкай, пакласці ў пасудзіну, уліць трошкі вады і пад накрыўкай паставіць на 2—3 гадзіны ў духоўку з тэмпературай 105—110 градусаў. Затым капусту ахаладзіць, пасыпаць зялёным (або сухім) кропам і дробна пасечаным часнаком, заліць агурочным расолам. Пакласці зверху драўляны кружок (талерку), прыціснуць. Паставіць у халоднае месца на двое сутак. Выняць капусту з расолу, нарэзаць скрылькамі. Падаць са смажанай бульбай.

1 качан капусты, 2 літры агурочнага расолу, часнок, кроп.

### СУП МАЛОЧНЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Малако змяшаць з вадой і давесці да кіпення, пакласці здробненую на буйной тарцы моркву, соль, варыць да гатоўнасці. У муку ўбіць яйка, дабавіць вады, старанна перамяшаць (цеста павінна быць, як густая смятана) і паступова ўліваць у суп пры няспынным памешванні. У канцы пакласці цукар і сметанковае масла.

4 шклянкі малака, 3 шклянкі вады, 1 морква, 1 яйка, 1 шклянка мукі, 2 чайныя лыжкі цукру, 50 грамаў сметанковага масла, соль.

### ТУШАНКА ГАРАДСКАЯ

Мяса памыць, нарэзаць кавалкамі сярэдняга памеру, пакласці на дно жароўні, зверху — ababраную і нарэзаную скрылікамі бульбу, на яе — чорны перац і дробна парэзаную цыбулю. Усё пасаліць, уліць вады (прыкладна да паловы аб'ёму), накрыць і паставіць тушыць на невялікі агонь. Праз гадзіну-паўтары зняць з агню, пакласці лаўровы ліст і паставіць у духоўку. Тушыць трэба доўга. Тушанка гатова, калі набудзе залаціста-карычневы колер. (У працэсе тушэння, калі спатрэбіцца, можна дабавіць вады і солі).

0,5 кілаграма ялавічыны, 1 кілаграм бульбы, 2—3 цыбуліны, 10 гарошын чорнага перцу, 3—4 лаўровыя лісты, соль.

### ГАЛУБЦЫ З БУЛЬБАЙ

Качан капусты, з якога выразана храпка, апусціць у падсоленую кіпячую ваду, паварыць некалькі хвілін, выняць, аддзяліць капусныя лісты, зрэзаць патаўшчэнні. Вараную бульбу патаўчы, дабавіць нашаткаваную падсмажаную цыбулю, дробна пасечанае варанае яйка, соль, перамяшаць. На кожны капусны ліст пакласці падрыхтаваны фарш, загарнуць у выглядзе канверта. Галубцы злёгку абсмажыць, скласці ў жароўню, заліць смятанай, змешанай з таматам-пюрэ, і тушыць 30—40 мінут.

800 грамаў капусты, 400 грамаў бульбы, 1 яйка, 3 сталовыя лыжкі топленага масла, 2 цыбуліны, 1,5 шклянкі рэдкай смятаны, 0,5 шклянкі томату-пюрэ, соль.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 286.
Падпісана да друку 23.02.1993.